Газэта заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991
Выдавец Рэдакцыя газэты «Наша Ніва»

# НАША НІВА

http://members.xoom.com/Nasa_Niva

Восьмы год выданьня

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

№13 (110), 1998

# НОБЭЛЬ – ЧАРНОБЫЛЬ НААДВАРОТ



Беларуская інтэлігенцыя збалелася па Нобэлеўскай прэміі. Пра гэта гавораць, мараць, вераць у шчасьлівае ўзнагароджаньне, як у панацэю ад нацыянальнага выраджэньня. Усе гэтыя, на першы погляд, бяссэнсавыя летуценьні ўжо самі па сабе ёсьць жыцьцём культуры, якая намацвае сваю новую постсавецкую ерархію.

На Нобэлеўскую прэмію вылучаюць, аб ёй хадайнічаюць, за яе спаборнічаюць. І ўсё гэта адбываецца пераважна таемна або й зусім таемна. Бо такія правілы дыктуе сам інстытут Нобэлеўскай прэміі, якая прызначаецца ў выніку складанай сыстэмы кулуарнага лабіраваньня. Сакрэтнасьць прыводзіць да таго, што ў розных асяродках беларускае эліты выношваюцца наконт Нобэля свае «віды», пра якія па-за межамі асяродку ня ведае ніхто. Такім чынам, у Беларусі можа адначасова высьпельвацца некалькі кандыдатаў у розных намінацыях, а самое прызначэньне акажацца, як заўсёды, нечаканым. Момант мафіёзнасьці ў гэтыя закулісныя гульні прыўносіць аб'ём прэміі — больш за мільён даляраў. Можна цалкам уявіць сабе, што для некага гэта ніштаваты бізнэс.

У нацыяналістычных асяродках Нобэля зьвязваюць найперш зь літаратурай, і найчасьцей называюць імя Васіля Быкава. Але й тут, высьвятляецца, ня ўсё адназначна і «адзінагалосна». Скажам, я быў перакананы, што ўся наша эліта спадзяецца на прысуджэньне прэміі Быкаву і, як можа, лабіруе гэтую ідэю яшчэ з часоў Брэжнева (калі Быкаву, казалі, далі Ленінскую прэмію нібыта дзеля таго, каб ён не атрымаў Нобэля), а можа быць, і раней.

*Працяг на старонцы 8*



*Здымак Сяргея Грыца.*

# Палёт капусьніцы

**Сяргей Харэўскі**

Бялянка капусная, альбо папросту капусьніца, зьяўляецца на сьвет у розных кутках Эўропы. І толькі зьявіўшыся на сьвет, адразу пачынае сваё бясконцае падарожжа на паўночны Захад. Ляціць яна, праўда, толькі ўдзень і толькі ў цёплае надвор'е. Яна не сьпяшаецца, і калі ёй у дарозе патрапляюцца купы прыдатнае зяляніны, яна затрымліваецца там. Некалькі гадзінаў яна сілкуецца, альбо адкладвае яйкі і рухаецца далей. Жыцьцё яе кароткае – тры-чатыры тыдні, але й за гэты час яна пасьпявае зьдзейсьніць падарожжа за трыста кілямэтраў ад таго месца, дзе нарадзілася.

Пад канец лета зь яек вылузваюцца новыя капусьніцы. Яны таксама народжаныя для палёту, аднак у іншы бок, строга назад, на паўднёвы Ўсход. Тыя матылі, што пазьяўляліся ў сярэдзіне лета, каля тыдня ляцяць на паўночны Захад.

*Працяг на старонцы 2*

# Рыгор Клімовіч: «Я БАЧУ НОВЫХ ЗМАГАРОЎ»

*Нарыльскае паўстаньне 25 траўня 1953 году – падзея, якая перакуліла ўяўленьні аб ГУЛАГу. Дзясяткі тысяч зьняволеных на працягу сарака дзён жылі незалежнай вольнай камунай. З ліпеня войскі расстралялі некалькі тысяч паўстанцаў, зь іх пяць тысяч беларусаў. Нарыльскае паўстаньне – ці ня самая значная падзея ў гісторыі менавіта беларускага антысавецкага супраціву. Паўстаньнем кіравалі пераважна беларусы. Узначальваў паўстаньне Рыгор Клімовіч, які пазьней стварыў гімн паўстанцаў «Ня страшны нам тыранствы бальшавізму». Сёньня гімн перакладзены на некалькі моваў. Пра Клімовіча зьняты фільм, і напісана безьліч тэкстаў у Расеі, Украіне і іншых краінах. У Беларусі Нарыльскае паўстаньне дагэтуль застаецца амаль невядомым. З Рыгорам Клімовічам гутарыць карэспандэнт газэты «Наша Ніва» Севярын Квяткоўскі.*

Р.Г.: Я нарадзіўся пад Гомелем у вёсцы Новацырэшкавічы, былой Шляхецкай Ваколіцы. Яна была заснаваная шляхтай, якая ў 1532 годзе разам зь Юрыем Радзівілам прыйшла вызваляць Гомель ад войскаў Васіля III. Мы – нашчадкі гэтай шляхты. Бадай, найбольш выразныя ўспаміны з раньняга дзяцінства ў мяне зьвязаныя з імем атамана Галакі.

Калі сёньня пішуць пра антысавецкі супраціў 20-х гадоў, мала ўзгадваюць аб тым, што поўдзень Гомельшчыны амаль да 1929 году ня ведаў сапраўднай савецкай улады. Бо тут дзейнічалі галакаўцы. Сам Галака быў настаўнікам зь вёскі Пілiпча Рэпкінскага павету Чарнігаўскае губэрні. База ягоных аддзелаў месьцілася ў Мохаве Гомельскага павету, там Галака і загінуў у 1929 годзе ад рукі чэкіста, які ўцёрся ў давер паўстанцаў.

Усяго байцоў у Галакі было ня больш за тысячу, супраць іх дзейнічала цэлая дывізія чырвоных. Але злавіць паўстанцаў не ўдавалася, бо ў кожнай вёсцы яны мелі свае «вочы» й «вушы». Галакаўцы вынішчалі бальшавіцкія гарнізоны. Падчас гэтых апэрацыяў іхнае войска павялічвалася на 4-5 тысячаў байцоў, якія на раніцу разыходзіліся па сваіх хатах...

Я добра памятаю, як імем Галакі пужалі заеджых савецкіх начальнікаў: «Сёньня ты камандуеш, а як заўтра прыйдзе Галака, што будзеш рабіць?»

Вядома, гэтае паўстаньне было найперш сацыяльным, ня мела выразнага нацыянальнага аблічча. Але ж паўстанцам дапамагаў Булак-Балаховіч. Але калі Булак-Балаховіч падаўся ў Польшчу, Галака застаўся. Бо ён быў мясцовы, і усе ягоныя байцы былі мясцовыя. Ён заставаўся да 1929 году. І вось, толькі пасьля Галакі ў нашым краі пачалася савецкая ўлада. Акурат напярэдадні калектывізацыі. Як адбывалася гэтая калектывізацыя – цяжка перадаць, распавесьці, як людзі аддавалі нажытае ўласным потам...

Аднойчы да нас прыйшла мая стрыечная сястрычка Надзенька, мая аднагодка. Мы селі палуднаваць, маці паставіла на стол, і Надзеньку запрасіла. А тая яшчэ й лыжкі ня ўзяла, як кажа: «Хутка вы паедзеце на Савіну, а мы на Салаўкі». І за сталом усталявалася цішыня, а бацька кінуў лыжку і ўстаў з-за стала. Я ня ведаў, што такое «Салаўкі», але чуў, што гэта штосьці страшнае. А ўжо праз тыдзень іх – сям'ю старэйшага брата майго бацькі – вывозілі, сем душаў. І пяцігадовую «злачынцу» Надзеньку таксама. Колькі было крыку!.. Я кінуўся да падводы, салдат высьпяткам мяне адштурхнуў у канаву, маці падхапіла, я біўся ў яе на руках... Не адзін зь іх не вярнуўся.

Праз год-другі напамін аб Салаўках. Гэта быў канец 29-га ці пачатак 30-га году, ранкам. Маці збірала сьняданак перад тым, як ісьці ў поле – нас калектывізацыя яшчэ не зачапіла. І вось, у нашу хату ўрываецца нейкі худы, абарваны, чорны чалавек. А на падлозе стаяў чыгун варанае бульбы для парсючка. Чалавек стаў на калені на ганку і пачаў выграбаць гэтую бульбу і пхаць запазуху. Маці закрычала: «Ды што вы робіце, мы вам хлеба дадзім!» Але ён ня слухаў, пакуль увесь чыгун ня выграб. А калі маці працягнула яму лусту хлеба, ён зразумеў, што ў гэтай хаце для яго няма небясьпекі, і, супакоены, прысеў. Хлеб узяў, але бульбу ня выкінуў. І тады паведаміў, што ўцёк з Салаўкоў. Чалавек гэты сыйшоў у лес, больш мы яго ня бачылі...

А ў 1933 годзе мы самі пачалі пухнуць з галадухі. У некаторых нашых суседзяў памiралі мае аднагодкі-дзэці. І тады бацька вырашыў, што дзеці нашай сям'і павінны вучыцца, каб сыйсьці з калгасу. Я пайшоў у суседнюю вёску Цыраху. Наша школа была беларуская. А ў нас увогуле расейскай мовы ніколі ня чулі. А калі хто зьяўляўся і гаварыў па-расейску, дык мы глядзелі на яго, як на дзікуна, і крыўлялі. А зь сярэдзіны 30-х пачалося іншае. У час заняткаў быў арыштаваны вельмі добры, любімы вучнямі настаўнік матэматыкі. Потым – настаўніца беларускай мовы й літаратуры, таксама ў час заняткаў. Замест іх прыслалі нейкіх малаадукаваных людзей. Гэта нас абразіла, але трэба было вучыцца далей.

У нас дома былі беларускія кнігі. Зараз я гэтых кніг нідзе ня бачыў, аб іх нават ня згадваюць. Адна кніга, самая тоўстая, была мне больш за ўсё даспадобы. Называлася «Наша вёска» Самковіча, Пратасевіча й Гарбацэвіча. Мая дзіцячая бібліятэчка засталася ў памяці на ўсё жыцьцё, яна вызначыла маю нацыянальнасьць. Найперш – зборнік Янкі Купалы, яшчэ дацэнзурнае выданьне...

Я паступіў у гомельскі індустрыяльна-пэдагагічны тэхнікум. Здаў усе іспыты на «выдатна», але ў расейскай дыктоўцы зрабіў дзевяць памылак. Таму мяне залічылі ўмоўна. Нягледзячы на тое, што ў тэхнікуме ўсё было па-расейску, установа яшчэ захоўвала беларускі дух. Тут былі створаныя пазашкольныя гурткі па беларускай мове і літаратуры. Напярэдадні вайны гурткі тыя былі разагнаныя. А пасьля пачалася вайна.

Не магу сказаць, што яна пачалася нечакана. На пачатку 1941 году па ўсіх установах Гомеля быў зроблены загад выкапаць бомбасховішчы. Мы ў тэхнікуме яму вырылі, але бярвеньне зьверху не накідалі, занятыя ўсе былі, у чэрвені ж іспыты... Але пра вайну ўсё роўна думалі. Я для насьценгазэты напісаў верш зь недвухсэнсоўнай назвай

*Працяг на старонцы 7*

# Лісты ў рэдакцыю

Добры дзень, Мая Газэта!

Спачатку пра мову – нашу і савецкую. Узбураны апошнім папярэджаньнем у твой бок. «Наша Ніва» – апошняя выспа ў шэрым акіяне псэўдабеларускага «совдеповского» грамадзтва РБ (рэспублікі бальшавікоў). І выспа тая, менавіта выспа, не ў апошнюю чаргу існуе дзякуючы несавецкаму беларускаму сьветаўспрыманьню. А ці ж магчыма ўспрымаць сьвет і адчуваць сябе цаглінкай гэтага беларускага сьвету, паслугоўваючыся мовай, якая ня можа перадаць сапраўдную беларускую душу? Ня ведаю, як каму іншаму, а ў мяне рыхтык «уши вянут», калі чую наркоўмаўку, ляпы кшталту «бархатны», «вярыцельныя»... А менавіта гэтую мову і прапануюць нашым дзецям цяпер. І, натуральна, дзіцячая рэфлексія на яе – «грубая и исковерканная» мова, якую ТРЭБА вучыць, дзеля савецка-беларускае «принудиловки». І дзеці ўспрымаюць праз гэта, што ўсё беларускае – гэта грубае, сялянскае, правінцыя, адным словам. Пішу гэта з уласнага досьведу вывучэньня беларускай мовы. У школе, калі «обучался» наркомаўцы, у мяне ніводная струнка не здрыганулася, што гэта нешта роднае, беларускае. І менавіта дзякуючы спатканьню з тарашкевіцай мая беларуская душа схамянулася, адчуўшы нешта спрадвечна роднае, іншымі словамі – «зов предков». І зараз савецкія беларусы хочуць спыніць гэта, каб нехта яшчэ праз тарашкевіцу не адчуў сябе патрыётам Радзімы Беларусі. Лічу, яны ня маюць пасьля гэтага ўчынку маральнага права лічыць сябе беларусамі, менавіта беларусамі, а не савецкімі беларусамі. Трымайся, родная газэта, ты нам патрэбная, як ніхто!

У выніку забароны газэты я згодны дзеля скарачэньня паштовых выдаткаў асабіста забіраць асобнік у тым месцы, дзе паведаміце. Так і трэба – вы падтрымоўваеце ўва мне беларускасьць, я падтрымаю родную газэту ў цяжкую гадзіну.

Таксама гэтым лістом прашу Раду БНР прыняць мяне ў грамадзяне вольнае і незалежнае Беларусі. Я – гэта Аніськевіч Уладзімер, 32 гады, адукацыя вышэйшая, працую ў камэрцыйным банку, жыву ў месьце Баранавічы, вуліца Камуністычная (усьмешка лёсу), б. 13А, кв. 54.

Жадаю вытрымкі, веры, творчага плёну, узаемадапамогі, беларускасьці і здароўя, каб усё гэта зьдзейсьніць.

**Уладзімер Аніськевіч,**
Баранавічы

* * *

Мы за друкам сьлядзім,
«Нашу Ніву» ісьследуем,
І ня лучшае в нас
Впічатленьне с газеты...
Убраць перагрузкі!!!
Мы і так беларускую мову ня ведаем,
Ну а тут яшчэ правапіс эты...
Какой-та ня рускі...

**Сяржук Сокалаў-Воюш,**
Прага

Добры дзень, дарагія нашаніўцы!

Усё сваё сьвядомае жыцьцё я пражыў у цэнтры Менску, і, пэўна, няма ўжо тутака куточка, які б мне быў незнаёмы. Аднак жа, час ад часу даведваесься пра зусім нечаканыя й дужа цікавыя рэчы. Неяк, шпацыруючы ля Дому ўраду, я ўскінуў галаву і ўбачыў чырвонаармейца зь вялікім сьцягам у руках, на якім было напісана: «Пад сьцягам Леніна да перамогі коммунізму». Во гэта дык навіна: у цэнтры Менску парушаюцца нормы «агульнапрынятага» правапісу! Слова «сьцяг» пішацца празь мяккі знак, а «коммунізм» у родным склоне мае канчатак -у. Ня дзіва, бо Ленін перад Домам ураду ўзьняўся якраз напярэдадні сумнавядомае рэформы правапісу 1933 году. Як вядома, падчас акупацыі 1941-1944 гадоў фашысты скінулі статую правадыра, а пастамэнт з барэльефамі і чырвонаармейцам пад «сьцягам» Леніна застаўся да «вызваленьня». Дык што рабіцьмем? Як грамадзянін Жураўскі «хвалюецца» пра «Нашу Ніву», дык «пахвалюемся» пра Леніна. Паколькі «ўнармаваць» беларускую мову на помніку Ільлічу цяжкавата, дык хіба што застаецца яго прыбраць нарэшце ад Дому ўраду. Дарма, што цяжкі. Няўжо ў сталіцы РБ – горадзе-герої Менску будуць парушацца «агульнапрынятыя» наркамамі БССР у 1933 г. правілы белмовы? Далоў Леніна-парушальніка з галоўнага пляцу Беларускае Славянскае Самастойнае Рэспублікі!

**Віктар Мухін,**
Менск

Добры дзень, паважаная Рэдакцыя!

Мне вельмі падабаюцца вашыя артыкулы, асабліва пра беларускую мову. Напрыклад, артыкул Севярына «Жаба ў роце». Хачу падзяліцца з вам адным назіраньнем, але я ня ведаю, як вы ацэніце мой пункт гледжаньня.

А хто з вас спрабаваў размаўляць з савецкім чалавекам? Не, ня з тым, хто ўсё жыцьцё гаворыць па-беларуску, а са звычайным гараджанінам. Неяк я быў на дні нараджэньня адной знаёмай, і там адно падпітае дзяўчо па прыколу пачало размаўляць на тых слэнгах, якіх яна начулася, працуючы правадніком. Гаварыла яна, між іншым, і па-украінску. Я папрасіў яе пагаварыць па-

# ПАЛЁТ КАПУСЬНІЦЫ



*Працяг са старонкі 1*

пасьля, нібы схамянуўшыся, таксама лятуць да канца жыцьця назад. За мільёны гадоў нішто не парушыла гэтага парадку... Легкакрылыя, амаль бязважкія матылі будуць ляцець заўсёды, насуперак усім вятрам, дажджам ці людзкім праблемам...

Тым часам вецер зьмяняецца амаль бясконца. Ён то сьціхае, то йзноў надзімаецца ва ўсю сваю моц. Ён можа кружляць па палетках ці заблукаць у лясных гушчарах... Але ён ніколі не паверне назад.

Калі адбылася аварыя ў Чарнобылі, дзьмуў цяжкі вецер з паўднёвага Ўсходу, як заўсёды ў Беларусі напрыканцы красавіка. У неба ўзьляцела 70 тонаў ядзернага паліва й 700 тонаў радыяцыйнага графіту. З чым гэта параўнаць? Зь Хірасімаю? Але тая маса радыёактыўных рэчываў, што ўтварылася пасьля выбуху там, не перавысіла 4,5 тонаў...

Чарнобыльскі вецер з паўднёвага Ўсходу прынес пакуты мільёнам людзей. Сёньня трацяцца калясальныя сродкі на лекаваньне людзей, на дэзактывацыю, добраўпарадкаваньне паселішчаў, бясплатнае харчаваньне дзецям, школьнікам, навучэнцам ПТВ і тэхнікумаў, якія жывуць на забруджанай радыёнуклідамі зямлі. На пачатак 1996 году ў Беларусі ў радыёактыўнай зоне знаходзіўся 3221 населены пункт... У іх зьмушаныя заставацца 1 мільён 841 тысяча чалавек, альбо блізу 18% насельніцтва Беларусі. На жаль, людзі – ня лёгкія матылі, каб узьняцца й зьляцець куды ў сьвет, далей ад сваёй бяды...

Каго б ні пераконвалі савецкія генэтыкі й мэдыкі – у тым, што далёкіх генэтычных наступстваў ня будзе, – гэтага не гарантуе ніхто. Нават праз тры гады пасьля катастрофы міністар аховы здароўя Ўкраіны Раманенка пераконваў сьвет, што аж да 2026 году, калі й пампэ колькі людзей ад гэтае навалы, то гэта будзе нешта паміж 200 і 600 чалавек. На той момант, калі чыноўнік гэта казаў, ужо памерлі сотні людзей. Паводле ацэнак амэрыканскага доктара Гейла (спэцыяліста па трансплянтацыі касьцянога мозгу), ад наступстваў Чарнобыля да таго ж часу загіне сама меней 75 000 чалавек. Каму тут верыць?

Паводле матэрыялаў Міжнароднай канфэрэнцыі 1995 году, наладжанай фондам UNFPA і прысьвечанай насельніцтву й развіцьцю, насельніцтва Беларусі скароціцца да 2025 году прыблізна на мільён чалавек... Для параўнаньня заўважу, што нас будзе менш, чым у Азэрбайджане ці Таджыкістане, дзе сёньня жыве ўдвая менш людзей і дзе не відаць канца войнам і крызісу. Няўхільна расьце дзіцячая сьмяротнасьць. Сёньня гэты паказчык складае 15 сьмерцяў немаўлятаў на 100 000 нараджэньняў. Ці шмат гэта? Для ўяўленьня: гэта ў два разы больш, чым у Пуэрта-Рыка, Ізраілі ці Новай Зэляндыі, і ў тры разы – чым у Сынгапуры, Нарвэгіі ці Ганконгу. Паводле гэтых паказчыкаў мы «апярэдзілі» Чылі, Малайзію, Ямайку і ўсталі на ўзроўні Шры-Ланкі. А зараз уявіце сабе пачуцьці бацькоў тых дзяцей, што памерлі, не пасьпеўшы пабачыць сьвятла. На каго ім наракаць? На вятры з паўднёвага Ўсходу?

Паводле тых жа крыніцаў інфармацыі, мацярынская сьмяротнасьць у Беларусі складае 37 жанчынаў на 100 000 нараджэньняў. На тле сусьветнае статыстыкі – гэта зусім змрочны паказчык. Гэта больш нават, чым у Грузіі ці тым жа Азэрбайджане. У Гішпаніі, Даніі, Ірляндыі гэты паказчык не перавышае 10 выпадкаў. А ў Англіі, Аўстраліі ці Швэйцарыі яшчэ напалову менш...

Ня цяжка прадбачыць, што нежаданьне беларускага рэжыму «весьці народ за цывілізаваным сьветам» абернецца яшчэ больш катастрафічнымі наступствамі. У Беларусі спажываецца энэргіі на душу насельніцтва 3.427 літраў паліва ў год, а мы ведаем, што гэта на ўзроўні Новай Каледоніі і менш, чым на Трынідадзе й Табага, Саўдаўскае Арабіі, Сінгапуры, ды яшчэ ўсім гэта звае. Лічбы мала што гавораць выпадковаму чытачу. Не паленаваўшыся, можна высьветліць, што ўсе пералічаныя краіны месьцяцца ў цёплым клімаце й ня маюць патрэбы ацяпляць будынкі і вытворчасьць зімою... Тады стане зразумелым, чаму Лукашэнка любіць нагадваць, што наша краіна ў Эўропе. Каб хто чаго не пераблытаў, чытаючы статыстыку. Зрэшты, Бог зь ёю, з энэргіяй і нафтай, якой бракуе ўсё больш і больш, пра што любы беларускі аўтамабіліст ведае й без статыстыкі. А вось паміраюць беларусы не на паперы... І якая розьніца маці, сярод якіх безыменных тысячаў прапала яе дзіцё.

Няхай у дзяржавы няма грошай... Гэта можна зразумець. Цяжкая савецкая мінуўшчына, перабудова эканомікі. Але навошта замінаць тым, хто спрабуе дапамагчы?.. Існуе, напрыклад, у Нямеччыне Асацыяцыя чарнобыльскіх ініцыятываў. Яна курыруе блізу 250 чарнобыльскіх ініцыятываў. Толькі дзякуючы ім у нямецкіх сем'ях аздараўляецца каля 12 тысячаў (!) беларускіх дзяцей. Ня будзем разьбірацца, зь якіх раёнаў і гарадоў яны туды трапляюць, бо гэта не істотна, зважаючы, што ў любым выпадку 90% беларускіх дзяцей сёньня на што-небудзь хворыя. Немцы стараюцца не для справаздачы. Здавалася б, каму гэта можа замінаць? Аднак летась былі прынятыя дадатковыя папраўкі ў заканадаўства, сэнс якіх у тым, каб дзяцей не вывозіць, а дапамагаць ім на месцы. Дапамагаць матэрыяльна, каб можна было з гэтай дапамогі... здымаць падаткі на карысьць тае самае дзяржавы, якая ня можа сама нічога зрабіць. Немцы інвэстуюць сотні тысячаў марак (не дзяржаўных, а прыватных!) у мэдычнае абсталяваньне, лекі, харчы... А тут кіраўніцтва РБ прыдумала новыя мытныя правілы. У выніку толькі з Нямеччыны ў Беларусь не патрапіла каля 80 канвояў гуманітарнае дапамогі. Гэта больш за 200 тонаў грузаў... Мінулай вясною да Вялікадня нямецкія дзеткі падрыхтавалі беларускім дзеткам 8000 падарункаў. Праўда, прыгожа? А вось бела-

*беларуску. Ня ведаю, дарэчы, хто яна па нацыянальнасьці, але тое, што я пачуў, было жахліва.*

*Я ня надта шчыры прыхільнік адраджэньня, для мяне беларуская мова – гэта мова філязофскіх разважаньняў.*

*Я пачуў, як звычайная дзяўчына загаварыла па-беларуску, трохі горш, як гавораць у нас па радыё, але гэта была яна. Яна, мова, якой нас вучылі на ўроках у школе й якая адлюстраваная ў школьным (старым) расейска-беларускім слоўніку Грабчыкава.*

*Гэта была мова без аніякага гумару, мудрасьці, ці з чым там яшчэ павінна быць жывая крыніца. Гэта была трохі зрусіфікаваная, але ўвогуле правільная, сухая, фармальная мова. Дзе яна ёй навучылася, у школе? У-у, тады яна добрая вучаніца.*

*Я вас прашу, не заклінайце пасрэднасьць – гэтага джына з бутэлькі. Калі я хачу штосьці адраджаць на Брэсцкім Палесьсі, дык гэта толькі палескую гаворку.*

З павагай, Валянцін, Берасьце

*«Наша Ніва», дзень добры!*



*Вось такая абвестка зьявілася ў школах Гомеля:*

*Выпускник!*

*С 5 июня по 1 июля 1998 года в Республике Беларусь проходит акция «Выпускник - 98». Она включает в себя возможность получения выпускниками школ, ПТУ, ССУЗов молодежного билета БПСМ с оплатой стоимости самого билета – 12500 рублей, но без оплаты годового членского взноса.*

*В рамках этой акции создаются общественные контрольные комиссии БПСМ при приемных комиссиях техникумов и ВУЗов Республики Беларусь, целью которых является защита законных прав абитуриента, являющегося членом Белорусского патриотического союза молодежи, и исключения злоупотреблений и нарушений в ходе вступительных экзаменов, и обеспечения равных прав граждан на получение образования.*

*Городской комитет БПСМ».*

*Мяне ўжо цяжка чым-небудзь зьдзівіць, а тут не стрымалася! Цікава, ці хто-небудзь яшчэ можа ствараць «контрольные комиссии»?*

Валянціна Бандарэнка, Гомель

# Калектыўны ліст у абарону «НН»

5 ліпеня ў варшаўскім цэнтры вывучэньня найноўшай гісторыі «Карта» адбылася міжнародная рабочая сустрэча. Сабраліся прадстаўнікі навукова-асьветных цэнтраў, якія дасьледуюць гісторыю антыкамуністычнай апазыцыі. Былыя дысыдэнты, а сёньня лідэры «Карты», маскоўскага «Мэмарыялу» і аналягічных цэнтраў у іншых краінах маюць цяпер шмат супольных праектаў, спаміж якіх – фундамэнтальны «Слоўнік дысыдэнтаў» былых камуністычных краінаў. Напрыканцы сустрэчы прысутныя прынялі адкрыты ліст да Дзяржкамдруку РБ у справе «Нашае Нівы»:

*«Зь Беларусі зноў даходзяць дрэнныя весткі. Існуе пагроза гвалтоўнае ліквідацыі газэты «Наша Ніва», якая працягвае традыцыі першай легальнай беларускай газэты, створанай у 1906 г. у Вільні.*

*Улады ў Менску закідаюць «Нашай Ніве» выкарыстаньне традыцыйнай беларускай граматыкі. У 30-50 гадах сталінскі рэжым правёў рэформу беларускай мовы, якая мела на мэце яе русіфікацыю. Уведзеныя тады правілы прызнаюцца цяперашнімі ўладамі за афіцыйныя.*

*Ад пачатку свайго існаваньня «Наша Ніва» паслугоўвалася традыцыйнай беларускай граматыкай. Гэтую граматыку выкарыстоўваюць і іншыя беларускія выдавецтвы, а таксама ўся беларуская эміграцыйная прэса.*

*Напачатку гэтага году ў Беларусі быў уведзены закон аб друку, які зрабіў магчымым легальнае закрыцьцё выданьняў на моўных падставах. Рэдакцыя «Нашай Нівы» ўжо атрымала ад Дзяржаўнага камітэту друку першае папярэджаньне ў справе мовы. Наступнае папярэджаньне прывядзе да закрыцьця газэты.*

*Пагроза «Нашай Ніве» – гэта ня толькі пагроза свабодзе слова ў Беларусі, гэта таксама пагроза для несавецкай беларускай культурнай традыцыі, якая ёсьць часткай культуры эўрапейскай.*

*Мы зьвяртаемся да ўсіх з заклікам падтрымаць беларускія СМІ і беларускую культуру, а асабліва «Нашу Ніву», у такі цяжкі для іх час».*

Ліст падпісалі вядомыя ў сьвеце змагары з таталітарызмам з Альбаніі, Балгарыі, Вугоршчыны, Латвіі, Літвы, Малдовы, Польшчы, Славеніі, Украіны, Чэхіі, Югаславіі.

рускія службы бяз дай прычыны зачынілі гэты сюрпрыз на тры месяцы на складзе... Цукеркі сапсаваліся, амаль усё пагрызьлі мышы. Што засталося, аддалі ўсё ж беларускім, нібыта сваім дзецям... У чэрвені.

Калі размова вядзецца пра слодычы, нават калі і пра Вялікдзень, уся размова нібы не ўсур'ёз. Але на складах, пазамыканыя самадурамі, прападаюць тоны мэдыкамэнтаў, менавіта безь якіх, быць можа, у гэтую хвілю недзе памірае дзіця ці парадзіха. У гэтым сэнсе крылатае лукашэнкаўскае: «ня нада, спасіба за баагатварыцельнасьць» набывае куды больш зьрочны сэнс, чым гэта нам здалося ад пачатку. У савецкіх свая гордасьць...

Так, людзі чамусьці ня лётаюць. І жывуць там, дзе наканавана. Між тым, лёгіка сёньняшніх уладаў, у сваю чаргу, нічым не адрозьніваецца ад лёгікі капусьніцаў. Адзін раз абраны накірунак не падлягае аніякай карэкцыі. Інстынкт. Калі на думку Лукашэнкі радыяцыйныя зоны — «нармальнае месца для працы», то хто будзе спрачацца?..

Між тым, у «нармальных» мясьцінах сваё жыцьцё. На Гомельшчыне, напрыклад, выпадкі па ўсіх відах хваробаў павялічыліся ў дзевяць разоў. Нічога дзіўнага, бо тамака агульная плошча сельскагаспадарчых земляў з узроўнем забруджаньня звыш 1 Ku на квадратны кілямэтар на сёньня складае больш за 806 тысячаў гектараў, і на ёй функцыянуе 370 калгасаў і саўгасаў. Разам з суседнімі абласьцямі гэта складае 446 калгасаў і дзясяткі саўгасаў. Людзі там працуюць на палетках, ходзяць у лес, на рэчку. Пакуль у вёсках будуць жыць вяскоўцы, ніхто ня зьменіць ладу іхнага жыцьця. А таму яны будуць паглынаць усё болей і болей радыёнуклідаў самі і карміць імі іншых. Радыяцыя распаўзаецца па краіне, як мэтастаза. Здаровых дзяцей ужо на сёньня па ўсёй Беларусі толькі 10%. Праз пакаленьне здаровых беларусаў ужо ня будзе ўвогуле...

Людзі, якіх амаль гвалтам спрабавалі перасяліць у чыстыя раёны, павярталіся. Чаму? Натуральна, не з-за «любові да роднага калгасу»... Проста ніхто й не зьбіраўся дбаць пра іхны лёс пасьля адсяленьня. Ні працы, ні звычнага ладу жыцьця ім не прапанавалі. Паехалі назад. І чынавенства з разуменьнем матылёў-капусьніцаў дапамагае ім вярнуцца.

Ёсьць на Гомельшчыне дзьве вёскі, Савічы й Сабалі, дзе ўзровень забруджанасьці адпаведна складае 11,2 і 17,2 Ku на квадратны кілямэтар. Туды прыехалі (і павярталіся) самасёлы, адпаведна 84 і 56 сем'яў... Якія мусяць быць дзеяньні ўладаў, якія выдатна разумеюць небясьпеку для здароўя людзей?.. Не, не здагадаецеся... Яны загадам накіравалі туды маладых лекараў, настаўнікаў, рабочых, якія толькі пасканчалі вучобу. Гэтая моладзь ахвяравала сваім здароўем дзеля «шчасьця» іншых? Не, у іх папросту няма выбару. Іншай працы, ды яшчэ з прыбыткам («грабавыя») ім не дастаць... У выніку — нават тое, што там выпрабляюць, па сабекошце даражэй за розьнічныя кошты. Гэтую прадукцыю нікуды ня «сплавіш», апроч як на свой, родны беларускі рынак. Пры тым, на мадэрнізацыю абсталяваньня, рамонт аўтапарку грошай не застанецца. Гэта ў сёньняшняй Беларусі ўжо даражэй, чым утрыманьне ў «зоне» людзей. І людзкое жыцьцё становіцца таньнейшым за расейскую нафту...

Чалавек можа зрабіць амаль усё, Можа зрабіць шмат. Пакарчаваць лясы, разараць зямлю, узьляцець да зораў. Нават павярнуць рэкі. Але ніколі чалавек не паверне вецер і ніколі ня спыніць палёт матылёў. Ды й навошта? Калі ў чалавека ёсьць магчымасьць выбраць сабе лёс самому. Прынамсі, ня быць падобным да жамяры...



# Яўхім Мінін. УСЬПЕНСКАЯ ЦАРКВА Ў

## СТО ТВОРАЎ БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦТВА XX-ГА СТАГОДЗЬДЗЯ



У адрозьненьне ад Менску, яшчэ ў 20-я гады ў Віцебску былі жывыя традыцыі беларускай школы ксілаграфіі. Тут, пасьля далучэньня Віцебшчыны да Беларусі, склаўся адметны цэнтар гравюры па дрэве, у якім найперш вылучаліся гэткія майстры, як Зіновi Гарбавец, Саламон Юдовін і Яўхім Мінін. Менавіта яны адрадзілі ці ня самы арыгінальны жанр беларускае графікі, якая дасягнула свайго росквіту яшчэ ў XVI ст...

... Яўхім Мінін пэўны час займаўся ў школе Пэна, тамсама, дзе вучыліся Шагал, Цадкін, Азгур, — пляяда выбітных беларускіх мастакоў жыдоўскага паходжаньня. Аднак заняўся гравюраю ён шмат пазьней, самастойна засвоіўшы старадаўняе мастацтва. Першыя свае крокі ў гравіроўцы па дрэве ён зрабіў у 1926 годзе. Ці ня самы раньні ягоны дрэварыт — «Калёна 1812 году ў Віцебску», у якім ён толькі пачынае шукаць свае ўласныя прыёмы. Штрыхі ў гэтай працы мудрагелістыя, але роўнастайныя, паўкруглыя...

... Росквіт майстэрства Мініна прыпадае ўжо на 1927 год. На працягу гэтага году ён стварыў свае лепшыя гравюры. Пераважна гэта былі краявіды роднага гораду, «... нашага Таледа». Але сярод іншага былі й эксьлібрысы, партрэты, пастановачныя кампазыцыі. Тады ж склалася адметная мінінская манера — скрупулёзнасьць, дакладнасьць штрыха, безьліч філігранных рысаў, якія ствараюць амаль неўлась-цівую дрэварытам паветраную пэрспэктыву, шматпляннавасьць. Ён умела гравіраваў, перадаючы лёгкія ваганьні тону. З дапамогай адмысловай штрыхоўкі Мінін перадаваў самыя драбніцы, якія ўражваюць сваімі нюансамі, паўтонамі, пераліўамі...

... Асобны пляст ягонай творчасьці, шырака распаўсюджаны ў тагачаснай Беларусі, складаюць эксьлібрысы. У тыя гады да гэтага жанру зьвярталіся, бадай, усе без выключэньня беларускія графікі. Тычына, Змудзінскі, Гарбавец... Але Мінін пайшоў далей у сваіх пошуках. Пад ягоным разцом кніжны знак ператварыўся ў самастойны, паўнавартасны мастацкі твор. Найбольш вядомыя зь іх — гэта эксьлібрысы для кнігазбораў Касьяровіча й Шлюбскага. Адметнасьць гэтага жанру ў тым, што перад мастаком стаіць задача ў пэўных вобразах адлюстраваць асобу, якой належыць эксьлібрыс. Напрыклад, значак для кнігазбору Шлюбскага — цэлая сюжэтная кампазыцыя, не зважаючы на мініятурнасьць твора: на кургане стаіць стары з сурмою, каля яго прысеў дудар з гусьляром, пад курганом вялікае дрэва, вершаліна якога сыходзіць у неба, за край мініятуры. Нават пры гэткім невялікім памеры вобразы герояў надзеленыя вострай індывідуальнасьцю, узроставымі адметнымі характарыстыкамі...

... Зазвычай, у якасьці прыкладу эксьлібрысаў Мініна прыводзяць і знак для Віцебскага краязнаўчага музэю. Зваленыя разам сымбалі «гісторыі й культуры» выглядаюць, як вучнёўская нацюрмортная пастаноўка, намаляваная ў маленькім фармаце... Аднак гэтая работа можа служыць хіба ілюстрацыяй да аўтарскага стылю — кантраст штрыха й плямы, ювэлірная мадэліроўка выяваў. Эксьлібрысы Мініна атрымалі сусьветную вядомасьць у 1928 годзе. Тады ягоныя работы, разам з эксьлібрысамі Гуткоўскага, Ахола-Вало й Змудзінскага, былі выстаўленыя ў Лос-Анджэлесе на выставе Міжнароднага таварыства кніжнага знаку...

... Эпоха паўставаньня нацыі прадвызначыла й пошукі яскравага ўвасабленьня нацыянальнае ідэі. У адрозьненьне ад многіх сваіх калегаў, Мінін пазьбегнуў фармальнага этнаграфізму, хаця і ў ягоных работах можна ўгледзець спробы засяродзіцца на арнамэнталістыцы, нават антрапалегіі. У гэты час пра прыроду нацыянальнага мастацтва йшлі гарачыя дэбаты. Беларуская прэса стракацела тэорыямі, як трэба ствараць свой, непаўторны кшталт у культуры. У часопісе «Трыбуна мастацтва» за 1926 (N1-3) у рэдакцыйным артыкуле пісалі: «... буржуазныя інтэлігенты, нацдэмы, якія імкнуліся ў сваёй тэорыі і на практы-

**Яўхім Мінін (1897, Віцебск – 1941) графік, акварэліст. Вучыўся ў Палітэхнічным інстытуце ў Петраградзе з 1916 па 1918. Пазьней – у віцебскай школе-майстэрні Пэна. З 1920 па 1937 выкладаў у Віцебскай мастацкай вучэльні. У выставах удзельнічаў з 1925 году. У 1928 годзе экспанаваў свае эксьлібрысы на Міжнароднай выставе кніжнага знаку ў Лос-Анджэлесе. Рэпрэсаваны.**

# «Шэксьпір» у «беларускай

**У канцы мінулага году ў парыскім выдавецтве «L'Harmattan» убачыла сьвет кніга маладых францускіх аўтарак Віржыніі Шыманец і Аляксандры Гужон «Гаворым па-беларуску: Мова й культура»*. Кніга выйшла ў сэрыі гэтага выдавецтва «Гаворым па...» («Parlons...»), якая мае за мэту ня толькі лінгвістычную, але й культуралягічную рэпрэзэнтацыю для францускага чытача дасюль малавядомых яму народаў Цэнтральна-Усходняе Эўропы, Азіі, Афрыкі ды Амэрыкі. «Беларуская» кніжка стала 31-й па ліку ў гэтай серыі і 5-й з тых, што прысьвечаныя мовам і культурам экс-СССР (пасьля «эстонскае», «украінскае», «грузінскае» ды «чачэна-інгускае»).**

**Лінгвістычная частка працы складаецца зь невялічкага нарысу гісторыі беларускае мовы, даволі грунтоўнае граматыкі, француска-беларускага размоўніка ды двух слоўнікаў (француска-беларускага й беларуска-францускага) на 2000 словаў. Яна дапоўнена аўдыёкасэтаю, якая мусіць дапамагчы зацікаўленаму франкафону самастойна авалодаць беларускаю моваю.**

**Што да часткі культуралягічнае, то еймымі складнікамі выступаюць гістарычная даведка пра Беларусь, урыўкі з празаічных твораў і вершы беларускіх аўтараў з раўналежным перакладам на францускую (М.Гарэцкі, А.Мрый, З.Бядуля, Я.Колас, У.Караткевіч, В.Быкаў, Р.Барадулін, Н.Гілевіч, М.Стральцоў, У.Арлоў, А.Разанаў), а таксама тузін невялічкіх артыкулаў, тэматыка якіх празрыста адлюстраваная ў назвах: «Імёны й прозьвішчы», «Абрады й звычаі», «На кухні», «Міталёгія й рэлігія», «Фальклёр», «Літаратура», «Пісьменьнікі ў выгнаньні», «Тэатар», «Музыка й опэра», «Архітэктура й выяўленчае мастацтва», «Чарнобыль», «Француія й Беларусь». Здаецца, што менавіта апошняя зь пералічаных частак можа зацікавіць і беларускага чытача. Мяркую так хоць бы таму, што «погляд з боку» на нашую гісторыю й культуру — рэч сама па сабе заўсёды цікавая, а да таго ж вельмі часта такі погляд дае падставы для сур'ёзных роздумаў на тэму адпаведнасьці нашых собскіх уяўленьняў пра сябе нашаму ж вобразу ў вачах іншых.**

**У якасьці ілюстрацыі прапаную ўвазе шаноўных чытачоў «НН» пераклад аднаго з названых артыкулаў. Ягоная аўтарка Віржынія Шыманец — дактарантка Унівэрсітэту Парыж III, спэцыялізуецца ў галіне тэатразнаўства й гісторыі тэатру, вывучае праблемы гісторыі й сучаснага стану тэатру ў Беларусі, зьяўляецца сябрам рэдакцыяў часопісаў «La Nouvelle Alternative» (які асьвятляе пытаньні гісторыі й сучаснасьці краінаў Цэнтральна-Усходняй Эўропы) і бюлетэню «Perspectives Bielorussiennes» (адзінае ў Францыі выданьне, цалкам прысьвечанае беларускай праблематыцы).**

Ігар Лялькоў

Парыж

*Symaniec V., Goujon A. Parlons bielorusien: Langue et culture. Paris: L'Harmattan, 1997. – 384 p.

**Віржынія Шыманец**

Савецкі рэжым шырока выкарыстоўваў беларускі фальклёр, які падаваўся ў выглядзе часта нанова пераасэнсаваным, перааркестраваным і «нармалізаваным» з мэтаю зьменшыць у ім мэлянхалічныя ці пэсымістычныя аспэкты і трансфармаваць яго ў *«народныя аптымістычныя творы»*. «Народны» рэпэртуар уважліва адбіраўся й кантраляваўся гэтым рэжымам, а адначасна распаўсюджваліся ідэі, што менавіта гэты, цалкам штучны фальклёр сымбалізуе «душу народа», ягоную гісторыю, а таксама яго своеасаблівасьць у «брацкай сям'і савецкіх народаў». Гэтым тлумачыцца, чаму й сёньня фальклёр застаецца адным з найістотнейшых складнікаў *беларускае савецкае* ідэнтычнасьці.

Многія беларусы, выхаваныя гэткім чынам, проста нязданыя ўявіць сабе культуру інакш, як у ейным этнаграфічным сэнсе. Таму ў апошнія гады мы можам назіраць за разьвіцьцём апазыцыйных культурніцкіх рухаў, удзельнікі якіх імкнуцца зноў адшукаць «чысьціню» *не-савецкіх* народных традыцыяў, што ў выніку ператвараецца толькі ў новую інструмэнталізацыю мінуўшчыны. Больш за тое, сыстэматычнае азіраньне на фальклёр праяўляе сябе ня толькі ў галіне музыкі ці народных танцаў. Этнаграфічнае стаўленьне змушае ўсю мастацкую прадукцыю існаваць у пэўных рамках, якія вызначаць ня толькі нормы ейнага вывучэньня, але й стварэньня. Гэтае стаўленьне спрыяе ўзмацненьню ўніфікацыі поглядаў людзей, і зусім ня толькі ў адносінах да культуры. І калі ў Менску, напрыклад, у тэатры і ня граюць Шэксьпіра ў беларускіх строях, то усё ж робяць гэта амаль таксама, як рэпрэзэнтуюць большасьць тэкстаў мясцовых аўтараў, званых клясычнымі. Увогуле, у сфэры тэатру, за выключэньнем спробаў М. Пінігіна ў Нацыянальным акадэмічным тэатры, няма *беларускіх* пастановак, у якіх бы глябальная эстэтыка не выводзілася з этнаграфічных рэканструкцыяў, прычым без анійкага клопату пра іхную трансфармацыю. І гэта зусім ня простая «прыманка для турыстаў». Ёсьць пераканаваньне: усё, што беларускае, ня можа быць рэпрэзэнтаваным паіншаму, як у традыцыйных строях і дэкарацыях драўлянае хаткі.

Верагодна, усё сказанае не давала б падставаў для сур'ёзных высноваў, калі б можна было сабе ўявіць, што справа ня йдзе, фактычна, пра акадэмічную норму, штучна сканструяваную з мэтай *украніць* пэўнае бачаньне народнае культуры. І калі зыходзіць з гэтага, то адразу робіцца цяжка ведаць дакладна: ці зьяўляецца сапраўды старажытным тое, што нам прапаноўваюць лічыць за гэткае? Штосьці ж можа быць і наватворам у чыстым выглядзе... Да таго ж, названае этнаграфічнае стаўленьне спрыяе яшчэ й маргіналізацыі беларускае культуры. Карацей, інструмэнталізацыя фальклёру прыводзіць да таго, што тэатар – больш ня тэатар, музыка – больш ня музыка, але ўсё гэта ператвараецца ў псэўдагісторыю ці этнаграфію.

Магчыма, хтосьці перакананы ў бескарыснасьці пошуку шляхоў трансфармацыі фальклёру ў мастацтва, тым часам як іншыя вераць у тое, што яны займаюцца менавіта мастацтвам, калі ствараюць свае «музэйныя экспазыцыі»? Трэба дадаць, што, сутыкнуўшыся са шматлікімі маніпуляцыямі, ужо й цяжка даць веры ў сапраўдную *народнасьць* такога тыпу імпрэзаў. Бо гэта ж зусім лёгка: высунуць наперад народ, паставіць яго ля вытокаў гэтае прадукцыі й дарučыць по-

# ВІЦЕБСКУ

цы праводзіць свае рэстаўратарскія контррэвалюцыйныя мэты. Для гэтага яны стараліся выкарыстаць выяўленчае мастацтва на Беларусі, і таму ім лепш за ўсё да густу падыходзіў рускі буржуазны рэтраспэктывізм, агляд назад, у мінулае. Па іх думцы, толькі ў мінулым Беларусі, у яе старажытных рысах можна зьдзейсьніць нацыянальную «самабытнасьць», нацыянальны стыль. «Як можна зьдзейсьніць праўдзівае адраджэньне нашай нацыянальнай мастацкай культуры, — гаворыць Шчакаціхін у артыкуле «Наша сучаснае мастацтва і нацыянальны стыль», — калі ня ведаць яе дасягненьняў...» Нацыянальны стыль не ствараецца, не прыдумваецца, ён расьце арганічна, складаючыся ў новых сацыяльных умовах, ён паступова перарабляе ў сябе старыя формы...».

... Мінін быў менавіта з тых, хто «аглядаўся ў мінулае». Сапраўды, ці не натуральна гэта было для мастака, які адраджаў старасьвецкія тэхналёгіі дрэварыту. І што можа быць больш натуральнага для гравюры па дрэве, як ня сэрыя «Драўлянае дойлідства Беларусі», якую ён зрабіў на працягу 1927-1928 гадоў? Работы з гэтай сэрыі сталі амаль адразу клясычнымі для беларускага мастацтва. Унікальныя помнікі народнае архітэктуры, чый лёс ужо быў прадвызначаны, зажылі сваім дзіўным жыцьцём, нібы воляю чараўніка, зьменшыўшы свае манумэнтальныя зрубы да памераў аднае дошчачкі. Поўныя гонару, нават пахіленыя, яны засталіся непахіснымі перад нечаканым паваротам у сваёй шматвяковай гісторыі. Многія гравюры з гэтае сэрыі выглядаюць часьцяком статычна, сухавата, нібы былі зробленыя для падручніка. Многія зь іх сёньня — мастацкія дакумэнты, у якіх зафіксаваная даўно й незваротна страчаная спадчына. Але найлепшыя зь іх, кшталтам «Чорнае Тройцы» — сапраўдная квінтэсэнцыя духу беларускага дойлідства...

Наступным і, бадай, найвышэйшым этапам творчасьці Мініна стала нізка гравюраў «Стары Віцебск». Гэтыя працы ўжо былі для мастака праграмнымі. На дзясятым годзе бальшавіцкае ўлады ілюзіяў заставалася ўсё меней. Трэба было сьпяшацца распавесьці нешта пра сваё, тое, чаму заставалася ўсё меней месца. Азірацца ў мінулае — кансэрватызм? Але ў тыя гады што ў Віцебску, што ў Менску гэта ўжо магло ўспрымацца як прынцып, як супроцьстаяньне. Андэграўнд на тле пралеткультаўскіх экспэрыментаў, што неўпрыкмет пераўтварыліся ў дзяржаўную палітыку.

Стромкія вежы незвычайнага хараства віцебскіх бажніцаў, мудрагелісты, жывы пульс барочных выгбаў, горад — істота, са сваімі вачыма, са сваім сэрцам. Гэтым сэрцам у Віцебску заўсёды ўважалі Усьпенскі сабор, што панаваў па-над усім гарадзкім навакольлем, як карона. Галоўным творам Мініна і стаў «Усьпенскі сабор у Віцебску». Як у боскай мандарле, у авале гравюры адлюстраваўся ўвесь віцебскі космас: рака, ніцыя вербы, векавечныя муры й лядашчая хацінка, стрэхі, а над імі лунае Сабор. Вышэй за аблокі...

У 1929 годзе, пасьля выставы Асацыяцыі рэвалюцыйных мастакоў Украіны, усе гравюры Мініна набыў музэй Кіеўскага ўнівэрсытэту. Шмат гравюраў было набыта для графічнага кабінэту Музэя выяўленчых мастацтваў імя Пушкіна ў Маскве. Усё складалася на лепшае. Але крыху пазьней, у 30-я, «Трыбуна мастацтва» напіша: «Мінін у сваёй творчасьці захапляецца папскім рэакцыйным барока...» Гэта быў прысуд. Яго забілі незадоўга да вайны, у 1941 годзе. Зьнішчылі і Сабор. Але Мінін гэтага не пабачыў... Вышэй за аблокі...

**Сяргей Харэўскі**

# Не пакідайце ж мовы нашай, ірляндзкай…

**Вікторыя Лоўкіс**

**Моўная асаблівасьць Ірляндыі* і яе падабенства да Беларусі, пра што не аднойчы пісала «НН», — білінгвізм. Але, у адрозьненьне ад сёньняшняе РБ, вяртаньне амаль зьніклай ірляндзкай (гэльскай) мовы ва ўжытак зьяўляецца афіцыйнай палітыкай дзяржавы.**

Ірляндцы, карэннае насельніцтва краіны, ужо ў V ст. мелі сваю мову — гайдэльскую. Яна склалася як асобны дыялект кельцкіх моваў у працэсе асыміляцыі даіндаэўрапейскага насельніцтва выспы. Жыхары Ірляндыі называлі сябе гайдэламі, у англізаванай форме — гэламі, мову — гэльскай. Саманазоў «гэлы» выкарыстоўваецца ірляндцамі да цяперашняга часу. На ірляндзкай (гэльскай) мове, адной з найстаражытных моваў Эўропы, у сярэднявеччы была створаная багатая літаратура: гераічны эпас, міталягічныя сагі, бардаўская паэзія ранейшага пэрыяду і патрыятычная паэзія — пазьнейшага. Аднак разьвіцьцё мовы было перапынена гвалтоўнай асыміляцыяй, што праводзілася ангельцамі з XII ст., і асабліва актыўна — з XVII ст.

Зьнішчэньне мовы бачылася заваёўнікам адной з умоваў поўнага паняволеньня краіны. Культура ды мова Ірляндыі былі пастаўленыя па-за законам: не дазвалялася выкладаньне ды кнігадрукаваньне па-ірляндзку, забараняліся народныя песьні, танцы, гульні, нельга было насіць нацыянальны строй. У выніку такога ўціску ангельская мова стала ў Ірляндыі сродкам зносінаў і гутарковай мовай народа. У пачатку XIX ст. гутарковая ірляндзкая мова захоўвалася толькі ў аддаленых заходніх раёнах краіны, так званых раёнах гэлтахт. Кансэрвацыя побыту і мовы на захадзе Ірляндыі, асабліва ў правінцыі Коннахт, — вынік масавага гвалтоўнага перасяленьня ірляндцаў з астатніх раёнаў краіны пасьля заканчэньня кромвэлеўскай экспэдыцыі, якая мела за мэту канчаткова задушыць Ірляндзкае паўстаньне 1641-52 г.

Ангельцы з надзвычайнай упартасьцю ўкаранялі сваю мову і вынішчалі ірляндзкую. Тым ня менш, поўнай этнічнай асыміляцыі не адбылося. Як адзначаў Ф.Энгельс у сваёй «Гісторыі Ірляндыі», «ангельцы падпарадкавалі сабе народы, якія належалі да самых розных расаў. Толькі ірляндцаў ангельцы не адолелі. Прычынаю таму надзвычайная плястычнасьць ірляндзкае расы. Пад лютым уціскам, пасьля кожнай спробы вынішчэньня, праз кароткі час, ізноў уздымаліся яны зь яшчэ большай сілай, як калі раней. Яны нібы бралі сваю галоўную моц у варожым стане, які прызначаўся для іхнага ж прыгнёту. У другім, а часта і ў першым пакаленьні чужаземцы ператвараліся ў большых ірляндцаў, як

***Ірляндзкая Рэспубліка (Eire) – дзяржава ў Заходняй Эўропе, займае 5/6 выспы Ірляндыя. Мяжуе з Паўночнай Ірляндыяй, якая ўваходзіць у склад Злучанага каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірляндыі. Плошча – 70,3 тыс. кв. км. Насельніцтва – 3,57 млн. чал. (1988), 98% усіх жыхароў – ірляндцы. Сталіца – Дублін. Афіцыйныя мовы – ірляндзкая і ангельская.**

*Працяг на старонцы 6*

# хатцы»

ўную за яе адказнасьць, у той час, як, у бальшыні выпадкаў, справа йдзе пра творы інтэлектуалаў ці запісы этнографаў, што падпарадкоўваліся (ці не падпарадкоўваліся) розным «культурным палітыкам», якія пасьлядоўна зьмянялі адна адну на гэтай тэрыторыі з пачатку стагодзьдзя.

Купала ці Колас не зьяўляліся простымі перакладчыкамі «ймкненьняў народных», а перш за ўсё выяўлялі ў сваёй творчасьці свае собскія імкненьні, якія ўжо потым распаўсюджваліся на народ, згодна зь нязьменнаю эстэтыкай і зь нязьменнай мэтай растлумачыць яму, да чаго мусіць быць падобная ягоная *нацыянальная сьведамасьць*. Дзеля гэтага зь іхных твораў выкарыстоўвалася й выкарыстоўваецца толькі тое, што здаецца карысным для «асьветы народа». Ва ўсіх выпадках гэта – ні што іншае, як мадэляваньне ўяўнага «нацыянал-беларуса» (альбо «савецкага беларуса») на падставе старанна адабраных матываў і вобразаў. Звычайна ва ўсім гэтым абвінавачваюць нацыяналістаў, але ж зусім відавочна, што менавіта дзяржава зьяўляецца асноўнай «дзейнай асобай» у глыбіні названых працэсаў, бо яна й была й ёсьць галоўным распаўсюднікам гэткае прадукцыі.

І гэта калі яшчэ не лічыцца з той духоўнай і містычнай значнасьцю, якую некаторыя зьвязваюць з гэткім тыпам імпрэзаў, званых *народнымі*. Можна знайсьці цудоўны прыклад названага жанру інтэлектуальных маніпуляцыяў у нядаўняй пастаноўцы «Раскіданага гнязда» Я. Купалы на беларускай мове ў Рускім тэатры Менску. Калі пастаноўка п'есы беларускага аўтара на беларускай мове ў рускім тэатры можа лічыцца палітычным актам, гэта зусім не абавязкова толькі тое, чаго ад яе чакаюць. І вось нам прапанаваны ўвесь камплект вычварэньняў этнаграфічнага стаўленьня да культуры: разбураны драматычны тэкст, перарваны вершамі Купалы (быццам арыгінальны тэкст п'есы не зьяўляецца самадастаковым); дэкарацыі абцяжараныя паганскімі стодамі ды татэмамі й мусяць сыгналізаваць нам: «дзея ўвесь час адбываецца ў Беларусі». Сцэнаграфія, згодна зь якою па некаторым часе татэмы завешваюцца велізарным і прыгнётным, каб не сказаць болей, абразом, што ператварае п'есу ў мэсу, а тэатар – у праваслаўную царкву (сымбаль тым больш шокавы, калі ведаць, што Рускі тэатар разьмешчаны ў будынку былой сынагогі, і што любы тэатар са сваімі пакаленьнямі актораў, адлучаных ад царквы, можа быць чым заўгодна, акрамя месца культу, узятага ў такім сэнсе); сымбалізацыя *беларускае хаткі* праз дах з падвешаных дошак, які, быццам выпадкова, разьляціцца ўшчэнт проста на актораў у традыцыйных строях; аксэсуары, узятыя адзін да аднаго са старых пастановак Акадэмічнага тэатру 70-х гадоў (трэба меркаваць, што яны ім здадзеныя «напракат» Рускаму тэатру, каб прыдаць ягоным акторам аўтэнтычнасьці); сымболіка сьмерці бацькі як мэтафара разбурэньня Радзімы; пэрсанаж дзяўчыны, скрадзенай маладым і распусным панам, які гэтым разам ёсьць мэтафараю бруду, што заплямііў чысьціню Радзімы; пэрсанаж сына, які йдзе са сцэны й нясе на сваіх плячох крыж на магілу бацькі: дзея разьлічаная на ймгненную й зусім пэўную ідэнтыфікацыю; у якасьці фіналу –дзяўчыны-кветкі, якія становяцца побач на край сцэны, каб сьпець нам «Ave Maria» Гуно...

Мараль гэтай гісторыі вельмі простая й ня мае ніякага дачыненьня да фальклёру: беларусы ня маюць ніякае альтэрнатывы й павінны прыняць гэткі свой лёс як нешта натуральнае, «пад сьпевы ды скокі».



# Не пакідайце ж мовы нашай, ірляндзкай...

Працяг са старонкі 5

самыя ірляндцы, а апошнія, чым болей засвойвалі ангельскую мову і забывалі на сваю, тым болей станавіліся ірляндцамі».

Працяглая барацьба ірляндцаў за незалежнасьць, адраджэньне нацыянальных традыцыяў прывяла да ўзьнікненьня ў 1893 г. Гэльскае Лігі (Gaelic League), заснаванай з мэтаю адраджэньня ня толькі мовы й літаратуры, музыкі, тэатру, але й нацыянальных спартовых гульняў, напрыклад, гэльскага футболу, харлінгу — ірляндзкага варыянту хакею на траве, а таксама народных танцаў. Прадстаўнікам Лігі ўдалося адрадзіць цікавасьць да мовы нават у такіх гарадох, як Дублін, Уотэрфорд, Лімэрык, дзе асымілятарская дзейнасьць ангельцаў праявілася наймацней. Гэльская ліга садзейнічала стварэньню Нацыянальнага ірляндзкага ўнівэрсітэту (заснаваны ў 1909 г.) з катэдрамі кельцкае археалёгіі, гісторыі Ірляндыі, ірляндзкае мовы ды літаратуры. Разьвіцьцё ірляндзкага літаратурнага адраджэньня стымулявалі Ірляндзкі літаратурны тэатар (з 1899 г.) і нацыянальны «Эббі тэатар» (з 1904 г.).

Асабліва актывізаваўся рух за адраджэньне мовы пасьля ўтварэньня незалежнае ірляндзкае дзяржавы (1921 г.). Адной з галоўных задачаў праграмы кіраўнічай партыі «Фіянна файл» пастаўлена «аднавіць ірляндзкую мову народа ды разьвіць нацыянальны лад жыцьця ў адпаведнасьці з ірляндзкімі традыцыямі ды ідэаламі».

Пачынаецца ірляндызацыя краіны. Мова ўводзеная ў якасьці абавязковага прадмету ў школах. Яе мусяць ведаць дзяржаўныя службоўцы. Усе афіцыйныя дакумэнты выдаюцца на дзвюх мовах: ірляндзкай ды ангельскай. У гарадох замененыя ўсе шыльды з назовамі вуліц — цяпер яны ўключаюць і ірляндзкія назовы. Аўтобусныя прыпынкі, тэлефоны-аўтаматы і нават грамадзкія прыбіральні ўказваюцца толькі па-ірляндзку. На ірляндзкай мове выходзіць некалькі газэт ды часопісаў, а дзьве фірмы, якія падтрымліваюцца дзяржавай, выпускаюць кнігі толькі на гэтай мове. Усё скіравана на тое, каб ірляндзкая мова, прызнаная на роўні з ангельскай афіцыйнай моваю краіны, стала яшчэ і першаю моваю.

Агульная колькасьць асобаў, якія карысталіся ірляндзкай моваю ды пры гэтым лічылі яе сваёй роднай, дасягае 240 тыс. чалавек (блізу 10% насельніцтва краіны). Павелічэньне ліку знаўцаў мовы адбылося ў раёнах, якія найбольш цярпелі ад англізацыі (Ленстэр) і ў гарадох, галоўным чынам за кошт буржуазіі і інтэлігенцыі. У раёнах, дзе ірляндзкая мова захавалася як жывая, лік ейных знаўцаў павялічыўся нязначна. Ірляндыя тады так і не перайшла цалкам на ірляндзкую мову.

У 1925 годзе ўрад стварыў Камісію гэльскае мовы для вывучэньня з эканамічнага і этнаграфічнага пунктаў гледжаньня некаторых мясцовасьцяў захаду і поўдня Ірляндыі, а таксама паўднёвага захаду Ольстэра. Камісія вылучыла два тыпы раёнаў: Фіор-Гэлтахт, дзе па-ірляндзку размаўляе ня менш за 80% насельніцтва, і Брэйк-Гэлтахт, дзе моваю валодае ад 25 да 80% насельніцтва. Абодва гэтыя тыпы раёнаў маюць пераважна сельскі характар, з дробнымі ізаляванымі паселішчамі ці мястэчкамі. Камісія адзначыла зьмяншэньне колькасьці ірляндамоўных жыхароў «гэльскіх раёнаў» у сувязі зь іхным слабым эканамічным разьвіцьцём, галоўным чынам, за кошт эміграцыі**. Зьмяншэньне асабліва выразнае сярод асобаў ва ўзросьце ад 30 да 39 гадоў. І хоць, як падкрэсьлівалася ў дакладзе, самыя спрыяльныя ўмовы для захаваньня й далейшага разьвіцьця ірляндзкай мовыназіраюцца менавіта ў «гэльскіх раёнах» (найлепшыя — у групе раёнаў Фіор-Гэлтахт), тым ня менш, іхнае насельніцтва дзьвюхмоўнае. Колькасьць жа асобаў, якія размаўляюць выключна па-ірляндзку, нестолькі нязначная, што нават перапіс 1936 году не дае пра іх падрабязных зьвестак. У нягэльскіх раёнах, дзе прэса, радыё, кіно, тэатар, царква, гандаль, прамысловасьць карыстаюцца ангельскай моваю і школьнае выкладаньне на ірляндзкай мове не зьвязанае з рэальнай моўнай сытуацыяй, верагоднасьць аднаўленьня і ператварэньня ірляндзкае мовы ва ўсеагульную гутарковую зусім нязначная. У той жа час эміграцыя і ўнутраная міграцыя насельніцтва спрыяюць распаўсюджаньню ангельскае мовы ў «гэльскіх раёнах».

Адраджэньне мовы сутыкнулася са шматлікімі цяжкасьцямі, адна зь якіх — лінгвістычная. Зьнішчэньне ангельскімі каланізатарамі пісьмовае мовы ірляндцаў прывяло да поўнага зьнікненьня літаратуры на нацыянальнай мове. У выніку апошняя страціла сваю літаратурную форму, распалася на дыялекты. Яшчэ ў канцы XIX ст. энтузіясты адраджэньня мовы спрабавалі стварыць стандарт мовы на аснове жывой гаворкі насельніцтва заходняга ўзьбярэжжа ды бліжэйшых выспаў. Аднак замацаваньню літаратурнай формы перашкаджала спаборніцтва дыялектаў. Першы ірляндзка-ангельскі слоўнік, складзены П.Дзінэнам (упершыню выдадзены ў 1904 г.) сьведчыць пра няўстойлівыя моўныя нормы і пра нявырашаныя пытаньні тэорыі ірляндзкае мовы.

Некаторыя дасьледчыкі трымаліся меркаваньня, што архаічную ірляндзкую мову (канстытуцыя 1937 г. зацьвердзіла ў якасьці дзяржаўнай мовы старажытнаірляндзкую гэльскую) цяжка выкарыстоўваць у сучасным індустрыйным сьвеце; у ёй адсутнічаюць абазначэньні многіх паняцьцяў і прадметаў. Менавіта таму апошнім часам навукоўцы-лінгвісты вельмі інтэнсіўна запаўняюць усе прабелы, уважліва дасьледуючы ды аналізуючы слоўнікавы фонд. Яшчэ адна складанасьць — нехапа кваліфікаваных выкладчыкаў, якія б вольна валодалі моваю і былі здатныя выкладаць яе. Аднак сотні школьных настаўнікаў з імпэтам вывучалі мову, праводзячы вакацыі ў тых нешматлікіх раёнах краіны, дзе насельніцтва яшчэ размаўляла па-ірляндзку. Разьвіцьцё моўнай палітыкі стрымлівалася і недастатковым дзяржаўным фінансаваньнем мерапрыемстваў. Толькі 2-3% нацыянальнага бюджэту вылучаюцца ўрадам краіны на праграму адраджэньня мовы.

Урад праводзіць сваю палітыку праз таварыствы мовы, якіх налічваецца пятнаццаць. Самае старое і шматлікае — Gaelic League, самае маладое і найбольш актыўнае — Gael Linn. Іхныя высілкі каардынуюцца ўрадавай радай, пры ўдзеле якой былі выпушчаныя два слоўнікі: тэхнічных тэрмінаў і новы англа-ірляндзкі. Зараз Gaelic League мае больш за трыста аддзяленьняў па ўсёй краіне. Ліга зьяўляецца ініцыятарам стварэньня вечаровых групаў вывучэньня ірляндзкае мовы, пры гэтым выкладчыкі прыцягваюцца на добраахвотных пачатках. Асобы, якія скончылі вечаровыя групы, атрымліваюць значак у выглядзе залатога пярсьцёнка, памерам з заручальны — Fainne. Да ліку ірляндцаў, якія мелі права насіць Fainne, належалі многія палітычныя дзеячы, у тым ліку і першы прэзыдэнт Ірляндыі Э. Дэ Валера.

Гэльская ліга ладзіць штогадовыя фэстывалі ірляндзкай культуры — toirreachtas. Гэтыя сьвяты працягваюцца дзевяць дзён і складаюцца з конкурсаў на лепшы твор толькі на ірляндзкай мове. Акрамя таго, дзеля захаваньня і збору вуснай народнай творчасьці, Ліга штогод праводзіць фэстывалі, так званыя фэйзеанны, спаборніцтвы ў танцах, сьпевах, музыцы, літаратурнай творчасьці, якія звычайна адбываюцца ў Дубліне. У 1958 г. з Гэльскай лігі вылучылася Gael Linn — арганізацыя, заснаваная групай былых студэнтаў, якія распачалі вытворчасьць кружэлак з запісамі народнай музыкі, хранікальных і мастацкіх фільмаў, адмысловых радыё- і тэлеперадач, субсыдаваньне культурных праграмаў. З грашовага фонду Gael Linn даюцца трохмесячныя стыпэндыі для паездак у раёны гэлтахт. Яшчэ адно дасягненьне Gael Linn — стварэньне ўва многіх гатэлях гэльскіх кабарэ, дзе выконваюцца ірляндзкія народныя песьні і танцы, адбываюцца канцэрты арфістаў.

Шмат зрабіў для распаўсюджаньня ірляндзкай мовы і нацыянальны «Эббі тэатар». Стваральнікі яго сьвядома ставілі мэтай садзейнічаць адраджэньню роднай культуры, і таму напачатку на сцэне ішлі п'есы толькі на ірляндзкай мове. Пасьля, аднак, галоўнае месца ў рэпэртуары сталі займаць п'есы ірляндзкіх аўтараў, якія пісалі па-ангельску. Усё ж літаратура на ірляндзкай мове ня мае шырокага кола чытачоў, бо па-ірляндзку чытае толькі невялікая частка інтэлігенцыі. «Ад шырокіх масаў ірляндзкага народу літаратар аддзелены падвойнай сьценой — як пісьменьнік краіны, у якой народ не чытае, і як пісьменьнік ірляндамоўны, у той час як моваю народа зьяўляецца ангельская», — піша прафэсар ірляндзкай літаратуры Д.Грын.



*Дублін на гэтым здымку нагадвае Менск*

Натуральна, што абавязковае вывучэньне ірляндзкай мовы ў школе дапамагло захаваць мову. У сярэдніх школах і рамесьніцкіх вучэльнях на ёй вывучаюцца некаторыя прадметы, а ў шэрагу школаў, асабліва ў тых раёнах, дзе ірляндзкая мова яшчэ выкарыстоўваецца ў побыце, усе прадметы выкладаюцца па-ірляндзку. Аднак сустракаецца ня так шмат выпускнікоў школаў, якія б карысталіся роднай моваю, а большасьць зь іх мае аб ёй досыць цьмянае ўяўленьне. Навучэнцы пішуць і чытаюць на ёй толькі ў той ступені, якая неабходная для здачы іспытаў. Да таго ж у краіне існуе толькі адзін унівэрсытэт, дзе выкладаньне вядзецца па-ірляндзку — ва ўгарадзе Голуэй (Galway). Была спроба ўкараненьня ірляндзкай мовы ў войску, аднак ад гэтае ідэі давялося адмовіцца.

Заклапочаны моўнай сытуацыяй урад у 1958 годзе ўсклаў вырашэньне праблемы білінгвізму на спэцыяльную камісію, у склад якой уваходзілі прадстаўнікі розных фракцыяў, што падтрымлівалі рух за адраджэньне мовы. Даклад камісіі, апублікаваны ў 1964 г., рэкамэндуе:

- стварыць нацыянальны моўны фонд;

- правесьці навуковае дасьледаваньне ірляндзкай мовы як жывой гутарковай мовы з выкарыстаньнем сучасных мэтадаў «моўнай лябараторыі»;

- стварыць нацыянальную выдавецкую раду па публікацыях на ірляндзкай мове кніг, п'ес, падручнікаў, музычных твораў;

- прызначыць стыпэндыі для пісьменьнікаў і журналістаў, якія пішуць па-ірляндзку;

- выраблаяць фільмы на ірляндзкай мове і г.д.

Прынята лічыць, што ў 1971 годзе было каля 600 тыс. чалавек (20,7% жыхароў Ірляндыі), якія валодалі ірляндзкай моваю. Некаторыя дасьледчыкі мяркуюць, што значная колькасьць людзей, асабліва ва ўзросьце ад 20 да 40 гадоў, валодае ірляндзкай моваю лепш, чым яны самі лічаць, і што «менавіта ў гэтым факце хаваецца спадзеў на захаваньне мовы, аднак не на адраджэньне яе».

У канцы 70-х у ніжняй палаце парляманту Ірляндзкай Рэспублікі каля 2/3 чальцоў маглі зразумець сэнс прамовы на ірляндзкай мове і ня менш за 1/6 маглі браць удзел у дэбатах на гэтай мове. Нягледзячы на тое, што службоўцы дзяржаўных установаў абавязаныя валодаць роднай моваю і выкарыстоўваць яе (за гэта яны атрымліваюць 10% надбаўку да заробку), толькі ў Міністэрстве адукацыі і ў Дэпартамэнце па справах раёнаў гэлтахт ірляндзкая мова шырока выкарыстоўваецца ў паўсядзённай працы.

Прыхільнікі ірляндзкай мовы бачаць у ёй аснову нацыянальнай самабытнасьці, усяго ірляндзкага. Яны адмаўляюць ангельскую мову, якая падаецца ім чужой. Іншыя ж лічаць, што гісторыю назад не павернеш, і калі так ужо атрымалася, дык ці варта спрабаваць што-небудзь зьмяняць. Адсутнасьць гэтак доўгачаканага ўсеагульнага інтарэсу да ірляндзкае мовы прымушае яе прыхільнікаў задацца пытаньнем, як гэта зрабіў аўтар аднаго з артыкулаў на гэтую тэму: «Што ж сталася з нацыянальным духам, які некалі прымушаў сталых людзей уначы, нягледзячы на дождж і вецер, пакідаць свае хаты і зьбірацца ў памяшканьнях, прадзіманых скразьнякамі, куды прыяжджаў на ровары школьны настаўнік, навучаў іх пачаткам іх роднай мовы, атрымліваючы за гэта жабрацкае ўзнагароджаньне? Цяпер мова карыстаецца прызнаньнем ў грамадстве, яна атрымала падтрымку ўраду, яе выкладаюць у школах, яна паўсюль, і ўсё ж яе няма нідзе, акрамя бедных хацін на заходнім узьбярэжжы. Якім чынам і калі яна атрымала ўдар, які адштурхнуў яе ад народу, што песьціў яе тады, калі гэта было небясьпечна?». Аўтар не знаходзіць адказу, але лічыць, што калі не прыняць самыя экстранныя меры да палітыкі адраджэньня мовы, то «ірляндцам прыйдзецца назаўсёды разьвітацца са сваёй нацыянальнай моваю і адначасова з хоць якой-небудзь надзеяй на нацыянальную самабытнасьць».

Імпэт, зь якім праводзілася палітыка адраджэньня ірляндзкае мовы ў 20-я гады XX ст., пайшоў на спад. Многія найбольш вядомыя змагары за мову загінулі пад час вайны за незалежнасьць у 1919-22 г., а астатнія палітычныя лідэры былі занятыя грамадзянскай вайной. Ні царква, ні прадстаўнікі дзелавых колаў не спрыялі распаўсюджаньню ірляндзкай мовы. Многія палітыкі, нават тыя, хто найбольш актыўна выступаў супраць ангельскай мовы, на самой справе самыя ня верылі ў магчымасьць адраджэньня ірляндшчыны. Што да царквы, то яна ня мела й не мае пэўнай пазіцыі ў гэтым пытаньні, і перавага, якая аказалася той ці іншай мове, залежала ад саміх сьвятароў.

У першыя гады існаваньня новай дзяржавы многія спадзяваліся, што ірляндзкая мова стане першай моваю ў краіне. Аднак блізкасьць Англіі, шчыльныя сувязі паміж дзьвюма краінамі, у выніку якіх Ірляндыю запаланяюць радыёпраграмы, кнігі, часопісы і фільмы на ангельскай мове — гэтага дастаткова, каб гарантаваць захаваньне прыярытэту ангельшчыны. Зараз нават ва ўрадавых колах прызнана, што самае большае, на што можна спадзявацца, — што ірляндзкая мова будзе побач з ангельскай звычайным сродкам зносінаў.

З распадам патрыярхальнага ўкладу, які захоўваўся тут да XX ст., зьнікла глеба, на якой традыцыйна існавала ірляндзкая мова. І ўсё ж, нягледзячы на тое, што толькі 20% насельніцтва нядрэнна ведае па-ірляндзку і толькі невялікая частка паўсюдна карыстаецца роднай моваю, рух за яе адраджэньне мае свае посьпехі — ірляндзкая мова ня зьнікла са штодзённага ўжытку.

** Ірляндыя – адзіная краіна ў Эўропе, дзе насельніцтва зь сярэдзіны XIX ст. на працягу болей чым 100 гадоў скарачалася за кошт эміграцыі, якая была і застаецца да гэтай пары (хоць і ў меншай ступені) адной з характэрных рысаў ірляндзкага жыцьця. Ірляндцы так раскіданыя па сьвеце, што іх можна сустрэць у многіх краінах, асабліва ў ЗША, Канадзе, Аўстраліі і Новай Зэляндыі. Сярод усіх ірляндцаў доля тых, хто жыве ў Ірляндыі, складае толькі 44%, у Вялікабрытаніі – 31%, у ЗША – 21%.

# Рыгор Клімовіч: «Я БАЧУ НОВЫХ ЗМАГАРОЎ»

*Працяг са старонкі 1*

«Эўрапейскі цыклён». Мяне выклікалі да камісара горада, і той сказаў, маўляў, немцы – сябры, а калі што здарыцца, дык у нас на мяжы такія арлы стаяць!.. Я на трэці дзень вайны бачыў, як той камісар плакаў – арлоў не было.

Я быў маленькі, худзенькі, мяне ў войска ня бралі. Я пагнаў калгасны статак на Ўсход, у Курскую вобласьць. А вярнуўся я дадому перад самым прыходам немцаў. Быў такі выпадак. Калі салдаты нямецкай перадавой лініі пераскочылі праз наш плот, адна бабулька, якая хавалася пад сталом, перажагналася на абразы і сказала: «Дзякуй Богу, нарэшце нашы пакуты скончыліся». Але калі вёску занялі тылавыя часткі, і немцы пачалі рэзаць курэй, сьвіней, адбіраць, што было лепшага, тая ж самая бабка казала: «Дзе ж тыя партызаны»... Людзі зразумелі, што адно ярмо зьмянілася другім.

Я праз лінію фронту падаўся ў Саратаў, дзе месьціўся эвакуяваны з Гомеля тэхнікум. Дабіраўся паўгады. Як жыў – не перадаць, здабываў хлеб нават вараж-бою. А ў Саратаве атрымліваў нейкі харч за тое, што ў публічнай бібліятэцы чытаў бабам газэты. Дырэктарам адной з саратаўскіх установаў быў брат вядомага чырвонага камандзера Будзёнага – Міхал Міхайлавіч. Ён часьцяком заходзіў у бібліятэку, каб пабалбатаць з наведнікамі. У брэжнеўскі час мяне прасілі, каб я распавёў піянэрам пра свае сустрэчы з «славутым чалавекам». Але што я мог распавесьці, не ўспаміны, а анэкдот нейкі. Міхал Будзёны ўвесь час піў, а добра выпіўшы, чапляўся да людзей з размовамі. Аднойчы пытаецца ў мяне, што я раблю ў бібліятэцы. Кажу – чытаю ўслых газэты, але амаль нічога за гэта не атрымліваю. А той кажа – мне б тваю працу, і мой заробак.

*На пачатку 1943 году Рыгор Клімовіч накіраваўся ў Маскву, разам зь сябрам, якога прызвалі ў войска. У Маскве Клімовіча арыштаваў НКВД па абвінавачаньні ў «шпіянажы». Яго спрабавалі абвінаваціць у забойстве камандзера партызанскага атраду, які базаваўся побач з Шляхецкай Ваколіцай у той час, калі Клімовіч знаходзіўся на акупаванай немцамі тэрыторыі.*

Р. Г: Суда ніякага не было. Мяне выклікалі да сьледчага і зачыталі прысуд. Суседзі па камэры ў сьледчай турме раілі падпісаць усе паперы энкавэдыстаў, але я ўпарта адмаўляўся. Ужо седзячы ў лягеры, я зразумеў, што калі б падпісаў гэтыя абсурдныя абвінавачаньні – мяне б расстралялі.

Сьпярша я сядзеў у адным зь сьвярдлоўскіх лягераў. У ім за месяц з тысячы ў жывых заставалася ня больш за шэсьцьдзесят-семдзесят чалавек. Для тых, хто быў на волі, мы лічыліся «будаўнічым калектывам мэталургічнага заводу». Цынус савецкага кіраўніцтва ўражвае дагэтуль. Калі завод быў пушчаны, Сталін даслаў віншавальную тэлеграму нашаму «калектыву» – тысячам трупаў, якія гнілі ў зямлі.

Я застаўся жывы толькі дзякуючы таму, што сярод інжынэраў сустрэў землякоў-беларусаў Сьвірскага й Вахрамеева, якія мяне падкармлівалі.

Наступны, Невенскі лягер, куды я патрапіў, быў ня менш страшны. Уявіце: былы авіяцыйны ангар, у якім пад адным дахам жыве больш за шэсьць тысячаў чалавек. Адсюль лягернае начальства адправіла мяне ў так званую «вараўскую камандзіроўку» ў Благавешчанскі лягер. Лепш за ўсё «камандзіровачныя» лягеры характарызуе прымаўка «сто чалавек плачуць – адзін сьмяецца». У сыстэме ГУЛАГу існавалі спэцыяльныя, невялікія па колькасьці вязьняў зоны, куды адсылалі на зьнішчэньне.

Што мяне выратавала?.. Я быў перакананы, што жыць мне засталося няшмат часу – зона цалкам складалася з крымінальнікаў. Магчыма, мне дапамагла адсутнасьць надзеі на жыцьцё. Аднойчы ў лягер з праверкай прыбыў пракурор. Я ў прысутнасьці ўсіх зэкаў выйшаў і сказаў, маўляў, чаму вы людзей нізавошта нішчыце? Гэта ж вы й ваша сыстэма на волі робіць зь іх бандытаў. Усе воры вельмі ўважліва слухалі маю абарончую прамову. А пракурор закрычаў на начальніка лягера: «Хто яго сюды зьмясьціў? Прыбраць!» Мяне вярнулі ў Невенск, але перад тым была размова з вараўскімі аўтарытэтамі. Яны сказалі літаральна наступнае: «Ты ўсё правільна зразумеў. Цяпер можаш усім казаць, што воры Багаслоўска даравалі табе жыцьцё».

*У сыстэме сьвярдлоўскіх лягераў Рыгор Клімовіч знаходзіўся з 1943 да 1947 году. У гэты час ён стварыў некалькі дзясяткаў вершаў, скіраваных супраць сталінскага рэжыму. Калі аўтарства было выкрытае, Клімовіча пакаралі пераводам у адзін зь лягераў Горлагу, што пад Нарыльскам. Горлаг — адна з адзінаццаці падобных установаў ГУЛАГу. Гэта канцлягер асабліва строгага рэжыму ўтрыманьня. Свайго кшталту лягер сьмерці, дзе за доўгія гады зьняволеньня мала хто заставаўся ў жывых праз вялікія маразы й адсутнасьць ежы.*

Р. К.: Яшчэ ў сьвярдлоўскім лягеры я пазнаёміўся з палкоўнікам Майсеенкам, які ў Нарыльску стаўся нашым брыгадзірам. Гэта быў баявы камандзер, асуджаны за тое, што ягоны полк патрапіў у акружэньне. Ён добра дапамагаў зьняволеным Горлагу. Дзякуючы яму этапаваная зь Сьвярдлоўску сотня «палітычных» заняла ў Горлагу ўсе кіраўнічыя пасады. Але ў Невенску ён ледзь не разьвітаўся з жыцьцём. Мяркую, лягернае начальства наўмысна прызначыла яго адказваць за барак. Майсеенка адразу ж паспрабаваў навесьці вайсковы парадак. Ён паставіў за кіраўнікоў аддзяленьняў былых афіцэраў. На наступную раніцу іх усіх знайшлі мёртвымі. Ён паўтарыў свой крок, вынік быў той самы. Тады я сказаў Майсеенку, што хутка яго адправяць у «камандзіроўку», зь якой ён ня вернецца. Давялося доўга тлумачыць, што зона – ня войска, што тут свае вельмі складаныя законы ўзаемадачыненьняў зьняволеных з адміністрацыяй і сярод саміх зьняволеных, якія дзеляцца на «вароў», «мужыкоў», «палітычных», «ссучаных» і г.д. Але самае галоўнае правіла зоны заключалася ў тым, што ніколі ня трэба супрацоўнічаць з адміністрацыяй. Навука пайшла на карысьць. Найбольш ярка пра гэта сьведчыць вось які эпізод.

На этапе ў Нарыльск мы патрапілі ў Краснаярскую перасылку. Мы – гэта каля сотні палітычных. А крымінальнікі, якіх было больш за тысячу, тры дні елі ўсю нашу пайку. Мы зразумелі, што яшчэ дзень бязь ежы – і усе загнемся. Як было змагацца – на сто чалавек два нажы, у той час, як у кожнага вора была свая халодная зброя...

Надвячоркам, калі крымінальнікі паселі ў сваім бараку, Майсеенка пайшоў да іх гуляць у карты на сваю папаху. І ніхто ў яго ня выйграў. За гэты час ён добра разгледзеў абстаноўку ў бараку. Вярнуўся да нас і кажа: «Рыхтуйцеся, будзем браць вараўскі барак». Сярод нас было два героі Савецкага Саюзу. Майсеенка менавіта ім выдаў нажы, маўляў, вы ж за штосьці «герояў» атрымлівалі. Я ня ведаю, на што мы разьлічвалі. Пазнаходзілі нейкія дубцы, дошкі і ачапілі барак так, каб было бачна з кожнага вакна. У дзьверы ўвайшлі Майсеенка – здаравенны быў мужык, двое нашых з адкрытымі нажамі і я. Майсеенка сеў за стол і сказаў: «Здаць зброю, вы ачэпленыя, і ў выпадку супраціву будзеце зьнішчаныя». Пачуўся жудасны рык. Узьняўся іхны «аўтарытэт» і рушыў з нажом. У нас кроў састыла ў жылах. Нож бліснуў над галавой палкоўніка і зь сілай утыркнуўся ў стол. А потым воры йшлі справа і зьлева, усе рычэлі, узмахвалі над галавой палкоўніка, і кідалі нажы. А Майсеенка толькі глядзеў у адну кропку. А калі мы ўзброіліся, ён сказаў: «Воры краснаярскай перасылкі, вы тры дні елі нашу баланду і наш хлеб. Прашу ўсё вярнуць». Ізноў узьняўся крык – «сука паганая, недачакаесься». Я вырашыў умяшацца, бо Майсеенка ня надта добра ведаў гэтую публіку. «Воры, вы ня воры, а падаль, якая пайшла на службу да чэкістаў, бо аббіралі нас, нават не спытаўшыся, што за этап прыйшоў. Я з Багаслоўскага «штрафніка», воры даравалі мне жыцьцё, але я сьведчу, што вы ня воры». Тут з глыбіні падняўся адзін зэк, падыйшоў, угледзеўся, і пытаецца: «Што, беларус?» Пасьля павярнуўся да свайго галоўнага і засьведчыў мае словы. Воры адвялі нас у хлебарэзку, выдалі пайку, але папярэдзілі, каб мы навучылі Майсеенку «паняткам»...

У Горлагу знаходзілася ў зьняволеньні безьліч выдатных людзей. Там я пазнаёміўся з народным артыстам БССР Эдзі Рознэрам, эстонскім кампазытарам Гэрбэртам Хаасам, эстонскім дырыжорам Эльмарам, славутым на той час маскоўскім акардыяністам Міхалам Каўфманам, паэтам Міхалам Люгарыным, прафэсарам расейскае філялёгіі Еўдакімавым, па падручніку якога я вучыў расейскую мову і інш. Быў сярод нас грузін Камбарашвілі, былы сусед Сталіна па вуліцы. Сталін зьнішчаў усіх сьведкаў свайго мінулага жыцьця, бо сьведкаў дзяцінства і росту бога быць не магло. Камбарашвілі казаў: «Каб я ведаў, у каго ён вырасьце, я б яго ў дзяцінстве прыдушыў»... Гэта ўсё была наша сотня.

*У пэрыяд 1950-1953 г. у Горлагу арганізаваліся асобныя беларускія брыгады і нават цэлыя баракі. Гэтаму спрыяла тое, што сярод высокакваліфікаваных зьняволеных, якія кіравалі будаўнічымі працэсамі, вялікая частка была менавіта родам зь Беларусі. Першыя ж захады Рыгора Клімовіча па прыбыцьці ў Горлаг былі скіраваныя на арганізацыю зьняволеных-беларусаў.*

Р. К.: Па прыбыцьці ў Горлаг я патрапіў у КВЧ – культурна-выхаваўчую частку. З 1949 году я прынцыпова адмовіўся працаваць. Але аднойчы ўлетку 1949 году я пабачыў, што на будаўніцтве аднаго з карпусоў Вялікага Медзеплавільнага Заводу, які меўся быць адным з флагманаў савецкай цяжкой індустрыі, гіне вялікая колькасьць людзей творчых прафэсіяў. Яны пастаянна не выконвалі патрэбную норму, і ім не дадавалі норму пайкі. Я прыйшоў да кіраўніцтва будоўлі, якое складалася зь зьняволеных-беларусаў, якія ў мінулым займалі рознага кшталту дырэктарскія пасады. Я сказаў, што трэба ратаваць людзей, і што ведаю, як гэта зрабіць. Але пры гэтым папрасіў надзвычайныя паўнамоцтвы. Яны спужаліся. Я ім кажу, маўляў, таму вы зараз тут і гібееце, што ў свой час баяліся і «стучалі» адзін на аднаго. Урэшце, я атрымаў паўнамоцтвы.

Далей справа была такая. Я пайшоў у бухгальтэрыю і запытаўся, ці працуюць людзі. Мне адказалі «так». «Тады чаму ж нізкія паказчыкі?» – пытаюся. У адказ разводзяць рукамі. Я ім загадаў, каб з заўтрашняга дня бухгальтэрыя давала нармальныя паказчыкі, і растлумачыў, што ў адваротным выпадку пакараньне будзе горшым, чым калі «застукае» адміністрацыя. Больш праблемаў з тым участкам будоўлі не было. А музыкаў і мастакоў я з катлавана выбраў.

*Пуск Вялікага Медзеплавільнага Заводу быў прымеркаваны да дня нараджэньня Сталіна 21 сьнежня 1950 году. Рабіць «падарунак» правадыру адмовілася больш за сто чалавек. Большасьць была пакараная ўтрыманьнем у ізалятары, «зачыншчыкаў» аддалі пад суд. Сярод іх быў Рыгор Клімовіч. «За антысавецкую дзейнасьць», якая выявілася ў вуснай антысталінскай агітацыі і працягу пісаньня адпаведных вершаў, ён быў паўторна асуджаны тэрмінам на дзесяць гадоў. Да канца 1952 году Клімовіча ўтрымлівалі ў Нарыльскай турме.*

Р. К.: Я сьвядома імкнуўся схаваць сябе ў турму, бо ведаў, што мушу даваць паказаньні на аднаго з «зачыншчыкаў» – былога камсамольскага дзеяча Доніча. Але ад вочнага спатканьня сысьці не ўдалося. Тады я зрабіў наступны крок. Я пісьмова «даў паказаньні» на Доніча, дзе напісаў літаральна наступнае: «Я сьвядомы вораг савецкае ўлады, ненавіджу камуністаў як сваіх асабістых ворагаў. Лічу Доніча сваім асабістым ворагам». Пасьля я даведаўся, што судзьдзя сказаў Донічу, маўляў, пашанцавала вам, прыкрыў вас Клімовіч. Пасьля гэтага вязьні Горлагу сабралі 6000 рублёў і перадалі мне ў турму...

Аднойчы ў лістападзе 1952 году ўсе сядзельцы Нарыльскай турмы былі кудысьці вывезеныя. Застаўся толькі я ды яшчэ адзін чалавек. Я яго ня ведаў. А неяк ноччу прывозяць новы этап у тысячу чалавек – скрозь украінцы. Новапрыбылыя ў мяне пытаюцца аб тым, што дзеецца ў Горлагу. Я кажу, што размаўляць ня буду, бо іх ня ведаю. Толькі калі я атрымаў ад лягерных сяброў цыдулку з інфармацыяй аб тым, што прыбылыя – «нашы», я ўступіў у кантакт. Высьветлілася, што іх перакінулі са Стэплагу (установа «роднасная» Горлагу), дзе праводзілі зачыстку ад «нечысьці». Гэта азначала толькі адно – прыйшло папаўненьне «нашых».

*2 сакавіка 1953 году памёр Сталін. Для большасьці вязьняў ГУЛАГу гэта азначала пачатак паслабленьня рэжыму ўтрыманьня і пачатак амністыяў. Але ў Горлагу рэжым яшчэ больш узмацніўся. Вясной 1953 году ахова атрымала дазвол расстрэльваць зьняволеных без суда, на месцы і на сваё меркаваньне. За вясну такім чынам было забіта трынаццаць чалавек. 25 траўня — яшчэ чатыры. Як толькі аб гэтым стала вядома па ўсім Горлагу, зьняволеныя спынілі працу. Зараўлі заводзкія гудкі, над лягерамі пачалі ўздымацца чорныя з чырвоным пасам сьцягі — знакі свабоды.*

Р. К.: Калі памёр Сталін, мы «адсьвяткавалі» гэтую падзею. Але, па шчырасьці, ані я, ані мае сябры ня верылі ў амністыю, аб якой хадзілі чуткі. Мы пераканаліся ў гэтым, калі ахова пачала страляць людзей. 25 траўня надвячоркам чатыры хлапцы сядзелі пасьля працы каля свайго бараку і сьпявалі пад гармонік. Міма ішла калёна зьняволеных кабетаў. Яны нас радасна прывіталі. Сьледам раздаліся аўтаматныя чэргі аховы. Усе чацьвёра загінулі на месцы. Праз пяць хвілінаў пачалі спыняцца будоўлі.

Кіраўнікі нацыянальных грамадаў Горлагу раіліся ўсю ноч. Былі такія, што казалі, быццам бяз сэнсу пратэставаць. Але на раніцу мы пачалі каваць шаблі, рабіць гранаты, абкладаць грузавікі бэтоннымі плітамі дзеля прарыву...

Мы склалі ліст патрабаваньняў, сярод якіх самымі галоўнымі былі – аб рэабілітацыі іншадумцаў, неграмадзянаў СССР да 1939 году і ахвяраў вайны. Мы патрабавалі прыезду камісіі ЦК КПСС. 7 чэрвеня сапраўды прыбыла камісія, але складалася яна з вышэйшых чыноў МГБ і МУС на чале з асабістым рэфэрэнтам Берыі генэралам Кузьняцовым. Перад перамовамі мы добра падрыхтаваліся, кожны зьняволены напісаў асабістую скаргу. Перамовы цягнуліся доўга, але мы адмовіліся ад патрабаваньня здацца.

*3 ліпеня 1953 году войскі ўвайшлі на тэрыторыю Горлагу і адкрылі агонь на зьнішчэньне з аўтаматаў і кулямётаў. «Мы адчулі ня страх, а пякучую нянавісьць да катаў. Мы ня кінуліся ўцякаць, а рашуча ставалі на месца забітых», — узгадвае Рыгор Клімовіч. У апошні момант паўстанцы адмовіліся ад лёзунгу «Свабода альбо сьмерць». Войскі захлынуліся ў крыві забітых, сярод якіх беларусаў было больш за пяць тысяч чалавек. Пасьля падаўленьня паўстаньня Горлаг быў расфармаваны, вязьняў павезьлі «на мацярык». Яны ўспрынялі гэта як сваю перамогу, бо мала хто адбываў у Горлагу поўны тэрмін зьняволеньня і вяртаўся жывым на свабоду.*

Р. К.: Нас везьлі на баржы па Енісеі ў бок Краснаярскай перасылкі. Мы ня ведалі плянаў адміністрацыі. Большасьць была схільная лічыць, што нас вязуць на зьнішчэньне. Ізноў сабралася нарада кіраўнікоў нацыянальных грамадаў. Мы вырашылі, што памяць аб паўстаньні ня мусіць зьнікнуць безь сьлядоў, а таму трэба скласьці песьню – гімн. Доўга раіліся, і вырашылі, што песьню трэба напісаць па-расейску, бо гэта адзіная мова, зразумелая усім вязьням. Але аўтарства даверылі мне, беларусу. Я мусіў напісаць тэкст на матыў якой-небудзь украінскай песьні. Я ўзяў мэлёдыю адной зь песьняў Украінскай Паўстанцкай Арміі. Аўтарства гімну «Ня страшны нам тыранствы бальшавізму» трымалася ў вялікім сакрэце. Я ведаю, што аўтара спэцслужбы шукалі доўга, ужо калі не існавала сістэму ГУЛАГу. Добра, што захаваліся сьведкі, якія ў 1991 годзе на сусьветным Кангрэсе ўкраінскіх палітзьняволеных засьведчылі маё імя як аўтара.

*З 1953 да 1956 г. Рыгор Клімовіч ўтрымліваўся ў турмах Уладзімера, Іркуцка, а таксама ў Азёрлагу. За гэты час яго яшчэ раз судзілі за «антысавецкую дзейнасьць». Але з пачаткам «хрушчоўскай адлігі» пастановай Вярхоўнага Савету СССР ён быў выпушчаны на волю.*

*Па вяртаньні на радзіму Клімовіч адразу ж зьвязаўся з сваімі сябрамі па лягеры. Найперш з украінцамі й літоўцамі. Пачало высьпяваць ядро падпольнай арганізацыі дзеля антысавецкага супраціву. Але на самым пачатковым пэрыядзе стварэньня арганізацыя была выкрытая. У 1957 годзе Клімовіча ізноў арыштавалі. Але дзякуючы таму, што адзін з падпольшчыкаў — украінец Дужынскі — усю адказнасьць узяў на сябе, Клімовіча «за недастатковасьцю доказаў складу злачынства» адпусьцілі на волю пасьля трох месяцаў утрыманьня ў сьледчым ізалятары КГБ — «амэрыканцы».*

*У наш час Рыгор Клімовіч актыўна ўдзельнічае ў грамадзкім жыцьці. Ладзіць публічныя выступы ў СМІ, на мітынгах, перад разнастайнымі аўдыторыямі. Яшчэ ў 1986-м ён падрыхтаваў аб'ёмны рукапіс успамінаў, які мы спадзяемся ў недалёкім часе пабачыць выдадзеным. Клімовіч — ганаровы сябра некалькіх расейскіх таварыстваў «Мэмарыял». Але найперш гэта свайго кшталту патрыярх беларускіх дысыдэнтаў, які актыўна займаецца пошукам падтрымкі для вэтэранаў антысавецкага руху.*

Р. К.: Сёньня ізноў вяртаюцца былыя часы. Я ізноў адчуваю цікаўнасьць КГБ да маёй асобы. Але дарэмна яны спадзяюцца на посьпех сваёй справы. Я веру ў будучыню, калі бачу дзейнасьць новых беларускіх змагароў за волю.

# НОБЭЛЬ — ЧАР

*Працяг са старонкі 1*

**І вось гады тры таму ў зімовай Варшаве я размаўляю з адным беларускім апазыцыйным прафэсарам і кажу яму, што няблага было б, каб наша апазыцыя выкарыстала свае міжнародныя сувязі дзеля лабіраваньня Васіля Быкава на прэмію. Прафэсар задумаўся і адказаў, што Быкаў, вядома, добры пісьменьнік, але ён стары, а ў нас ёсьць маладзейшыя, якія пра вайну пішуць лепей за яго.**

**Адказ прафэсара я расцаніў як недасьведчанасьць. Маўляў, ня ведае чалавек літаратуры, бо якія такія маладзейшыя ў нас пішуць лепш за Быкава і тым больш пра вайну?**

**Тую гутарку з прафэсарам я ўвесь час згадваў для сябе амаль як анэкдот. Пакуль не зразумеў, што памыляўся тады не прафэсар, а я сам. І ў той час, калі мы гаворым пра кандыдатуру Васіля Быкава, у яго, аказваецца ёсьць у Беларусі зусім рэальны канкурэнт.**

**Зусім нядаўна я зразумеў, што прафэсар меў на ўвазе Сьвятлану Алексіевіч. Яна ж і маладзейшая і таксама піша пра вайну. Яе творы шырока перакладаюцца ў сьвеце. Увагі з боку прэсы ёй не бракуе, ды й пра яе кандыдатуру на Нобэля ўжо даводзілася чуць ня раз. А калі ўлічыць, што прэмія, як правіла, бывае нечаканай... Выходзіць, бээнэфаўскі прафэсар ужо тры гады таму ведаў, каго яму трэба лабіраваць на швэдзкую прэмію.**

**Асабіста я нічога ня маю супраць Сьвятланы Алексіевіч. І калі б зоркі леглі для яе шчасьліва, варта было б шчыра парадавацца за пісьменьніцу, якая піша па-расейску. Але не за Беларусь. Бо, парадаксальным чынам, такая прэмія магла б стаць апошнім цьвіком у труну беларускае мовы, якая пасьля такога прызнаньня рускамоўнае літаратуры ў Беларусі наўрад ці б ужо ачомалася да паўнавартаснага грамадзкага існаваньня. Магчыма, яна б атрымала статус ірляндзкае мовы, на якой яшчэ гавораць сяляне ў краіне, дзе сямёра ангаламоўных пісьменьнікаў носяць званьне ляўрэатаў Нобэля.**

**Справядліва было б, каб рускамоўныя пісьменьнікі прадстаўляліся ў сьвеце як расейскія. На жаль, пакуль гэта ня так. І ў тым не віна пісьменьнікаў, а бяда тых краінаў, што падарваныя 200-гадовай расейскай акупацыяй.**

**Купалава апазыцыя «Белабог — Чарнабог» трансфармавалася ў алітэрацыю Аляксандра Лукашука «Нобэль — Чарнобыль». Самое слова «нобэль» з гэтага моманту стала беларускім. Ці стане яно для нашае культуры лёсавызначальным?**

*Сяргей Паўлоўскі*



**Уладзімер Арлоў:** *Я лічу, што найбольшую верагоднасьць атрымаць Нобэлеўскую прэмію ў сучаснай Беларусі мае пісьменьнік, і мы ведаем імя гэтага пісьменьніка. Калі прысуджэньне яму Нобэлеўскай прэміі адбудзецца, напрыклад, сёлета, то мой прагноз такі. Па-першае, нарэшце сярод багатых беларусаў зьявіцца пісьменьнік, які дасягнуў багацьця не праз гандаль, напрыклад, гарэлкай ці сумленьнем, а літаратурнай працай. Па-другое, чалавек, які займае пасаду прэзыдэнта краіны, не павіншуе нобэлеўскага ляўрэата. Па-трэцяе, дзяржаўныя выдавецтвы Беларусі не закідаюць нобэлеўскага ляўрэата прапановамі пра новыя выданьні ягоных кніг. Па-чацьвертае, Міністэрства адукацыі не рэкамэндуе выкладчыкам роднай мовы абавязкова правесьці адмысловы ўрок, прысьвечаны новаму нобэлеўскаму ляўрэату. Па-пятае, калі чытачы захочуць сустрэцца зь ляўрэатам, высьветліцца, што дзеля гэтага патрэбны пісьмовы дазвол «вэртыкалі» або, напрыклад, БПСМ. Можна прагназаваць таксама пэўныя захады з боку падатковай інспэкцыі. Але ўрэшце гэткая рэакцыя будзе мець несумнеўны станоўчы эфэкт. Карацей, я мару, што ў XXI ст. Беларусь уступіць са сваім першым нобэлеўскім ляўрэатам, бо на наступнае стагодзьдзе ў нас плянуюцца новыя.*



## Дысыдэнт, эмігрант, прарок...



Аднаго разу польскае пасольства ў Менску наладзіла вечарыну, прысьвечаную прызначэньню Нобэлеўскае прэміі Віславе Шымборскай. Як і мае быць, было запрошана колькі літаратараў, перакладчыкаў, журналістаў з культурніцкіх выданьняў. На маё зьдзіўленьне, беларускія калегі, за выключэньнем вядомага перакладчыка спадара Сёмухі, ня здолелі ўцямна растлумачыць ролю Шымборскай ані ў сусьветным, ані ў польскім кантэксьце...

Ці ня самым каларытным удзельнікам тае вечарыны быў стары прыяцель паэткі Янка Брыль. «Я знаёмы зь Віславаю, бадай, болей, чым хто з прысутных, ад 52-га году. Тады мы добра кантактавалі. Разам з польскімі раўналеткамі мы распрацоўвалі мэтад сацыялістычнага рэалізму», — казаў Брыль. Пасьля сьпеваў і дэклямацыяў пад раяльны акампанэмэнт, пані амбасадар Эльжбэта Смулкова прапанавала па трэцяй чарцы. Прысеўшы ва ўтульны фатэль, спадар Брыль шчыраваў з суседзямі: «Але ж і пашанцавала ёй! Зрэшты, палякі заўсёды былі джэнтэльмэнамі. Ёсьць у іх тры нобэлеўскія ляўрэаты, нарэшце прапусьцілі наперад жанчыну».

У беларускай прэсе пра тое, што паэтка з суседняе краіны атрымала найвышэйшую ў сьвеце ўзнагароду ў галіне літаратуры, напісалі хто двума радкамі, хто ў два абзацы. Чамусьці некаторыя згадалі Бродзкага і Салжаніцына. А ўжо праз тыдзень беларуская публіка йзноў нічога ня ведала пра Віславу Шымборскую...

У той самы час Польшча трыюмфавала. Здымкі, інтэрвію, камэнтары, і бадай, самае істотнае, вершы Шымборскай запаланілі ўсю польскую прэсу. У любой кнігарні можна было пабачыць дзясяткі рознафарматных выданьняў і пра Шымборскую, і пра яе паэзію. У Варшаве са мною ў гэты раз шчыраваў адзін кракаўскі выдавец: «Для нас гэта зорны час. Шымборская — зараз гэткі тавар, які разыйдзецца ўмомант. Але я табе скажу — гэта зорны час і для паэзіі. Большасьць тых, хто купляе сёньня яе кнігі, раней наогул не цікавіўся паэзіяй». Для Польшчы Шымборская стала адным з нацыянальных сымбаляў.

Для краіны факт прысуджэньня Нобэлеўскае прэміі яе грамадзяніну — ня толькі гонар, але і ўнікальная магчымасьць распавесьці пра сябе сьвету. Спраўды, хто б ведаў краінку Сэнт-Люсія, каб не літаратар Дэрэк Уолкот, які таксама атрымаў Нобэля? Французы атрымалі дванаццаць прэміяў за літаратуру, улучна з самым першым ляўрэатам у сьвеце, Франсуа Сюлі-Прудомам. Натуральна, пра Францыю ведаюць у сьвеце і бяз Нобэля. Але тое, што французы маюць тых прэміяў больш за каго — сьведчаньне магутнасьці францускае культуры. І Францыя прымае гэта, як належнае.

Праўда, распавесьці пра пэўны край могуць і нобэлісты іншых краёў. Сянкевіч і Мілаш прамаўлялі пра Беларусь, хоць і па-польску... Такім чынам, нешта ад інстытуту нобэлеўскага ляўрэацтва Беларусь ужо атрымала...

Раней раздача прэміяў Нобэля была густа замяшана на палітыцы: які кантынэнт пара прадставіць, які колер скуры ў прэтэндэнта, і пытаньне, ці ня самае істотнае, ці рэпрэсавалі творцу на радзіме?.. Гэткім чынам у ляўрэаты патрапілі два савецкія аўтары, якіх пазбавілі савецкага грамадзянства. Іх ужо добра запомнілі ўсе былыя жыхары СССР. Ня столькі па творах, колькі па зубадрабільных камэнтарах у камуністычнай прэсе, кшталтам: «тунеядцу дают премию». Таму ў Менску часьцей за ўсё іх і прыгадваюць, двух расейскіх літаратараў зь нязьменным асацыятыўным шэрагам: нобэлеўскі ляўрэат — дысыдэнт, эмігрант, прарок і гэтак далей. Уявіць сабе, што прэміі могуць даваць і за чыстую эстэтыку... Не, не ўяўляецца. Таму Шымборская ня надта каго цікавіць тут, бо не кладзецца ў асацыятыўны шэраг...

Кім мусіць быць беларускі прэтэндэнт на Нобэля? Тым, чый маштаб ня выкліча сумневаў у аматараў літаратуры ў любой краіне...

Калі прэтэндэнт мусіць пісаць, як Салжаніцын, палітычна-дакумэнтальную прозу, то ім мог бы быць Францішак Аляхновіч са сваім эўрапейскім бэстсэлерам «У кіпцюрох ГПУ». Мог бы, ды ня стаў... Не было Беларусі на мапе. Хоць кнігу Аляхновіча надзвычай апэратыўна, нават па сёньняшніх часах, пераклалі на 11 моваў. Бо Аляхновіч першы па-мастацку распавёў сьвету пра жахі сталінскага рэжыму. Калі б у тыя, 30-я гады прэмію Нобэля ўручылі яму, з намі й нашай моваю лічыліся б і Захад і Ўсход... Беларусь магла б зьявіцца на мапе сьвету раней.

Калі прэтэндэнт мусіць пісаць, як Бродзкі, паміж турэмнымі адсідкамі, то ім мог бы стаць Славамір Адамовіч. Мог бы, ды ня стане, бо самым маладым ляўрэатам, ва ўзросьце 41 году, быў толькі Рэдзьярд Кіплінг і тое... у 1907 годзе. Кансэрватыўныя швэдзкія акадэмікі не даюць прэміі людзям, маладзейшым за сябе. А таму нават салідны літарацкі дробак Адамовіча ў Стакгольме важыць мала. А шкада, бо ў гэтым выпадку, зважаючы на ўзрост паэта, мы былі б упэўненыя ў будучыні мовы...

Уявіць сабе свайго, беларускага ляўрэата цяжка. Зрэшты, не цяжэй, чым уявіць сабе, што ўсе наваокал загавораць на сваёй, беларускай мове...

*Сяргей Харэўскі*

# НОБЫЛЬ НААДВАРОТ

## «Загляне сонца і ў наша ваконца»

Існуе стэрэатып, згодна зь якім Нобэлеўская прэмія ў літаратуры — гэта найвышэйшая ступень міжнароднага прызнаньня пісьменьніка. Доўгі час у гэта верыў і я, ажно да таго дня, пакуль на распродажы ў бібліятэцы за сьмешную суму не набыў кніжку Эляны Балютавіч'ютэ «Пісьменьнікі-ляўрэаты Нобэлеўскай прэміі». І зьдзівіў мяне ў гэтай кніжцы ня столькі сам не па-эўрапейску мудрагелісты цырыманіял шанаваньня чарговых ляўрэатаў — ад Каралеўскага прыёму да дзяўчынак с запаленымі сьвечкамі ў галаўным уборы, якія 13 сьнежня поруч абраньнікаў Шведзкае акадэміі кавы. Ня столькі фармулёўкі матываў прысуджэньня таму ці іншаму пісьменьніку, хоць значная частка зь іх поўная звычайных алягізмаў. Скажам, Габрыэлю Гарсія Маркесу прысудзілі прэмію «За раманы й навэлы, у якіх фантазія й рэчаіснасьць зьліваюцца ў адзін багаты паэтычны сьвет, які адлюстроўвае жыцьцё аднаго кантынэнта й яго канфлікты». Можна падумаць, што канфлікты знаходзяцца па-за межамі чалавечага жыцьця. Але гэта мяне не зьдзівіла. Зьдзівіла тое, што пра існаваньне добрай трацыны Нобэлеўскіх ляўрэатаў я даведаўся з гэтай кніжкі. Мне неяк здавалася, што больш-менш арыентуюся ў гісторыі літаратуры XX ст. Але ў каго са знаёмых філёлягаў ні пытаўся, што ім гавораць прозьвішчы: Тэмплеруп, Понтапідан, Ундсэт... Усе пацісkалі плячыма і ў адзін голас казалі: «Скандынавы нейкія». Вось табе й сусьветная вядомасьць. Так што леташні нобэлеўскі сюжэт зь нікому не вядомым італьянскім блазнам і прапановаю Сяргея Шупы закрываць Нобэлеўскую манапольку — відаць, ужо меў месца ў гісторыі літаратурнага працэсу.

Некалькі гадоў сярод беларускіх літаратараў і журналістаў ходзяць чуткі, што калі ня сёлета, дык у наступным годзе Васіль Быкаў атрымае Нобэлеўскую прэмію. Для мяне гэта толькі новая інкарнацыя старога слогану беларускага адраджэньня «Загляне сонца і ў наша ваконца». Аднак, як сьведчыць гісторыя, мудрае эўрапейскае сонца нешта ня надта любіць сьвяціць для нашага краю. Клімат у нас ня сонечны, ці што?

Уяўляю, што дзяды з Швэдзкае акадэміі ўсё ж прагаласуюць за сына беларускай вёскі Васіля Быкава і прызнаюць яго за аднаго з найвыбітнейшых літаратараў сучаснасьці. Што гэта зьменіць? Натуральна, колькі тыдняў усе эўрапейскія газэты будуць друкаваць партрэты Васіля Быкава. Пісаць пра яго, як пра вялікага пісьменьніка й нязломнага барацьбіта, перакладаць на скорую руку ўрыўкі зь ягоных твораў. Колькі дзесяткаў тысяч чалавек даведаюцца, што існуе беларуская мова й літаратура. Натуральна, што не абыйдзецца без кур'ёзаў. Бо журналістам пісаць даводзіцца пра тое, у чым яны ні на грам не разьбіраюцца. Ясна, што за гэтым хлыне хваля перакладаў. Пераклады аповесьцяў Васіля Быкава будуць пераважна з расейскай мовы, і друкавацца яны будуць пераважна ў спэцыялізаваных выданьнях. А праз дваццаць гадоў які-небудзь дацкі філёляг знойдзе ў сьпісе Нобэлеўскіх ляўрэатаў прозьвішча Быкава і з хітраватаю ўсьмешкай будзе пытацца ў сваіх знаёмых філёлягаў: «Хто такі Васіль Быкаў?» А яму ў адзін голас будуць адказваць: «Ня ведаю. Расеец нейкі...»

Што да Беларусі, то, баюся, калі сёлета Васіль Быкаў урачыста вып'е кавы з Карлам XVI Густавам, сёньня гэта нічога ня зьменіць. «Советская Белоруссия» будзе пісаць пра перафарбоўшчыка й кан'юнктуршчыка Быкава, які на старасьці гадоў вырашыў напляваць на ідэалы «Советской Родины», пра даўгія рукі амэрыканскай разьведкі і пра тое, што імпэрыялісты з НАТА суюць свой доўгі нос у справы «суверенной республікі», і патасна пытацца, а чаму не далі такога ж мэдаля й такога ж чэка з шасьцю нулямі Івану Шамякіну, які нічым ня горшы. Народ зборльшага будзе паблажліва казаць пра тое, што прэмію Быкаву далі за тое, што ён бээнэфавец, і выключна для таго, каб насаліць прэзыдэнту. Новых чытачоў для беларускіх кніжак гэта не дадасьць. Як не ўплываюць на іх наклады розныя дзяржаўныя прэміі, што немаведама па якім прынцыпе штогод раздаюцца шчодраю рукою. Бо беларусы прызвычаіліся да пахмурнага надвор'я.

**Андранік Антанян**

**Аляксандар Лукашук:**



*Нобэлеўская прэмія для Беларусі – як Чарнобыль наадварот. Ейнае выпраменьваньне прасякнула б жыцьцё нацыі на пакаленьні наперад і асьвяціла б на пакаленьні назад. У гэтым сьвятле адкрылася б – і так стала існай – уся Беларусь, мінулая і будучая, для сьвету і для сябе самой. Спраўдзілася б Купалава мэтафара пра пачэсны пасад між народамі. З Нобелеўскага п'едэсталу загаварыла б уся нашая задушаная, закатаваная, расстраляная ў 20 стагодзьдзі літаратура і мова. Яна б уваскросла, як Хрыстос пасьля зьняцьця з крыжа.*

*Тое, што я сказаў, – аргумэнты слабасьці. Вонкавае прызнаньне – пацьверджаньне істотнасьці існаваньня, яго вартаснасьці –патрэбнае тым, хто сумняецца ў сабе. Беларусы сумняюцца. Для мяне асабіста гэта быў бы самы шчасьлівы дзень у жыцьці. Толькі слабыя ведаюць, што такое перамога.*

**Зянон Пазьняк:**



*Нобэлеўская, як і ўсялякая прэмія, што адзначае талент і інтэлект, спрыяе фармаваньню разумнай эліты грамадзтва. А ў грамадзтве ўзровень разумнай эліты – гэта найважнейшае. Страта такой эліты ці яе перараджэньне, ці абніжэньне ўзроўню вядзе да грамадзкіх хваробаў, такіх як таталітарызм, самаразбурэньне, страта арыентыраў, што можа скончыцца нацыянальнай катастрофай.*

*Наяўнасьць прэміі для эліты і для элітарных дасягненьняў трэба толькі вітаць. З другога боку, сытуацыя з прызначэньнем такіх прэміяў ня можа быць цалкам аб'ектыўнай. Тут умешваюцца палітычныя, геаграфічныя і іншыя традыцыйныя чыньнікі. Акрамя таго, грамадзтва таксама павінна быць актыўным.*

*Інтэлектуальны ўзровень беларускай эліты – гуманітарнай, навуковай, тэхнічнай – вельмі высокі. Але грамадзтва ня ўмее яго скарыстаць, ня ўмее выявіць, прадставіць і нават шанаваць. Не знаходзіцца актыўных людзей, каб арганізаваць падрыхтоўку і прадставіць Васіля Быкава на Нобэлеўскую прэмію. Само па сабе такое ня робіцца, а пісьменьнік і ягоная творчасьць вартыя прэміі Нобэля. Грамадзтва ня здолела нават абараніць вялікага пісьменьніка ад лукашэнкаўскага акупацыйнага рэжыму. І гэта ў значнай ступені ўзяла на сябе міжнародная супольнасьць.*

*Так што розум у грамадзтве павінен быць актыўным. Калі гэтага ня будзе, то не адбудзецца і яго поўнай рэалізацыі. Будуць страты. Можа быць, як і ў прыкладзе зь Беларусяй, высокі інтэлектуальны ўзровень, але гэта прападае марна альбо выкарыстоўваецца іншымі не на карысьць нацыі.*

## Рэальны кошт

Апошнія дні ці, дакладней, ночы чэрвеня жыхарам менскага цэнтру ўжо другі год не прыносяць жаданага адпачынку пасьля працоўнага дня. На галоўным праспэкце ідзе рэпэтыцыя вайсковага параду да галоўнага сьвята нашай сёньняшняй дзяржавы. Наглуха зачыненыя вокны не выратоўваюць ад выхлапнога смуроду вялізнае браняванае калёны. Гукі рухавікоў прасочваюцца скрозь капітальныя сьцены пасьляваенных дамоў, а стальныя гусяніцы пры сутыкненьні з асфальтам прымушаюць зьвінець кожную шыбіну.

Я вызірнуў на вуліцу не ад цікавасьці, а ад немагчымасьці заснуць. Але ўбачаная карціна не падалася мне сумнаю. Хутчэй, заваражыла сваёю гарманічнасьцю. Па начным праспэкце, які йзноў зрабіўся Сталінскім, цёмнымі прывідамі праносіліся танкі, БТРы ды іншыя пачвары. Замыкалі калёну тры джыпы з прымацаванымі сьцягамі знаёмых колераў, што бравурна выпросталіся ветрам. Як тут усё адпавядала адно аднаму: архітэктура пераможнага трыюмфу, нафарбаваная дзеля параду тэхніка, колеры сьцягоў. Нават жоўтая літара «М» моднай амэрыканскай сталоўкі нейкім чынам упісвалася ў гэты «начны патруль». Цалкам лішнімі глядзеліся адно выпадковыя гледачы. Сваім разьняволеным, неуніфармаваным выглядам яны ўносілі дысбаланс у агульную карцінку. Я зрабіў намаганьне ўявіць на гэтых машынах нашыя сьцягі. Але не ўявілася. Нашыя сьцягі не для начных спэктакляў...



IREX ProMEDIA

Дзень усё верне на свае месцы. Дзённае сьвятло змые ўвесь начны містыцызм. Баявая тэхніка ўжо ня здасца такою непераможнаю, хутчэй недарэчнаю. Бо ў гэты дзень будуць ісьці большай часткаю ў чэргах па піва. А галоўны камандзір зьдзейсьніць нязвыклы для сябе ўчынак — зачытае сьвяточную прамову на беларускай мове. Апафеозам сьвята стане канцэрт колішняй менскай дзяўчынкі, якая ўсё ж «прабілася ў Маскву». А пазаўтра ўсё ізноў пойдзе сваёй чарадой. Танкі схаваюцца да наступнага параду. Апазыцыйная прэса будзе з новай сілаю «разоблачать антибелорусский режим». А рэжым будзе надалей дасканаліць свой стыль і сваю мову. І спажыўцы дзяржаўнага беларускага слова знойдуцца. Мовы, на якой нельга мысьліць, але можна паслухаць «канцэрт па заяўках радыёслухачоў», можна даць аб'яву ў газэту «Звязда», ці нават самому напісаць які беларускі вершык для «Чырвонай змены». Не забываючыся на запаветную мару «пробиться». Што з гэтым тэлебачаньнем, з гэтай прэсаю, а значыць, і з гэтай моваю ніяк не асацыюецца. Чырвоная беларушчына застаецца прыручанай сінічкаю не для высокіх палётаў. Назаўсёды скаваная сваім адмысловам стылем. Хіба могуць словы прыпевак і вестак з палеткаў каштаваць дорага?

А сапраўды, хто-небудзь хоць аднойчы спрабаваў вылічыць кошт мовы? Можа, гэта пара тысячаў за датаванае беларускамоўнае выданьне, ці можа, усё, чым валодае сёньня рэальная Рэспубліка Беларусь? Разам з усімі сваімі танкамі ды камбайнамі. І які хаос мог бы ўнесьці ў мазгі лаўцоў маскоўскага жорава нобэлеўскі мільён, дадзены менавіта нашаму слову. Як першы лот ў аўкцыёны. Як указальнік накірунку, куды сапраўды варта прабівацца. Як гатовы сцьвярджальны адказ на шмат якія пытаньні, што сёньня здаюцца недарэчнымі. Што можна, валодаючы гэтым словам, прачнуцца мільянэрам? На гэтай мове можна зьдзяйсьняць самыя дарагія маскультурныя праекты, кшталту свайго нацыянальнага «Плэйбою» ці мыльнаопэрнага сэрыялу? І менавіта на гэтаю мове навучаць кіраваць танкам?..

Але наўрад ці такія пытаньні прыходзяць у галаву тым, хто пад бразгат жалеза аб асфальт марна намагаецца заснуць. Каб назаўтра намагацца стварыць сабе «хорошее настроение». Я ж ведаю адказы на тыя пытаньні і без Нобэлеўскай прэміі. А паколькі гэтыя танкі надаюцца выключна для параду, я маю надзею дачакацца ўтылізацыі іх і ўсяго таго, што яны быццам бы аберагаюць.

**Зьміцер Бартосік**



IREX ProMEDIA

# Старонка вершаванага радка

## Андрэй Аляксандраў

РАДЗІМА

1.
Радзіма
крочыць басанож
па бязьмежжы сенажацяў
і нябёсаў.

2.
Радзіма
ўсьміхаецца мне
васільковымі вочкамі
з жытняга поля.

3.
Радзіма
спынілася
сонечным зайчыкам
на твары дзіцяці.

4.
Радзіма
глядзіць з кніжных паліцаў
стракатымі радамі
Мудрасьці.

5.

Радзіма –
навокал.
Я дыхаю Ёю.

***

Горад лезе нахабна ў люстэрка ракі
Ліхтарамі халоднымі й бруднасьцю вуліцы.
Зноў бэтоннае змрочыва ўзьніме сьцягі,
Ад якіх будзе неба скрываўлена жмурыцца.

Сваю чорную песьню пра вечную ноч
Засьпявае нам, грэшнікам, вецер атручаны.
Адзінокая зорка шапне: «Не суроч
Гэту веліч акцыдную цемры бязгучнае...»

Ўсё у цішы бязглуздай да раньня памрэ...
Карагод шэрых зданяў зямлю разарваную
Зноў абдыме, зацісьне у змрочнай руцэ
Сонца першы прамень, што так доўга чакаю я...

***

Неверагоднасьць паветра
Лёгкія прагна ўдыхаюць,
Голас халоднае цемры
Я празь сябе прапускаю.

Быццам вакцыну, у вены
Шэрасьць маўклівасьці ўводжу –
Зараз сьвятло ў маіх генах
Цемра адолець ня зможа.

Сэрца маё бесьсьмяротным
Стане, і ў бітву за Волю
Я буду сьмела ды годна
Сьцяг свой трымаць,
І адолець

Ворагі нас больш ня змогуць,
Здраднікаў зьнікнуць наветы...
Толькі ўдыхнуць мне дазвольце
Неверагоднасьць паветра...

## Тацяна Барысава

ТАМУ ШТО

Таму што
мы маем Слова,
нам злыдні
крывавяць вусны.
Несанкцыянаванай мовай
азваліся беларусы.
Азваліся, што жывыя,
што робяць сьвяты Працяг
і шчэ не адзін уздымуць
«міронаўскі» Вольны Сьцяг.
Азваліся – не даруюць
такога табе і мне.
Зацята муры фарбуюць,
бо «Беларусь жыве!»

МАЛЕНЬНЕ

Божа, пашлі мне Словы,
Словы, нібыта лёзы,
песьні вясновай моцны,
неўтаймаваны ўздых.
Дай мне сваю лагоднасьць,
веліч пакут нястомных
гэткую, каб аж сьлёзы
беглі з вачэй маіх.
Сэрца спалі агменем
моцы майго каханьня,
чыстым, нібы лілеі,
вечным, як зор сьвятло.
Ўсё, што яшчэ стрываю,
вышлі выпрабаваньні.
Дай мне сваю Надзею,
дай мне сваё Цяпло!

ЯКАЯ ЦЕМРАДЗЬ

Якая цемрадзь навокал,
Вярэдзіць, сьвідруе вока!
А мне яшчэ так далёка
Да сьвятла.
Мой лёс – гэта лёс адзіны,
Адзіны з маёй Радзімай,
Адзіны з маёй радзінай,
А іншага і няма.
І хай!
Я нішто не аспрэчу.
Здараюцца гэткія рэчы.
Мой шлях праляжыць
Празь цямрэчу,
Але ж да сьвятла!

## Аляксей Бацюкоў

***

Чуеш, шоргат?
Гэта восень.
Гэта крокі цяжкіх хмар.
Бачыш, ружы?
Гэта зоры. Гэта зор ружовы твар.
Я адзін тут,
Толькі восень,
Толькі сум са мной і ты.
Бачыш, мора?
Гэта росы.
Гэта сініх хваль браты.
Шлях у неба.
Як далёка.
Перад шляхам вартавы.
У яго далонях сьпёка.
У яго далонях
Мы.

ВОРСКЛА

Над скрываўленай Ворсклай
Грае вецер жалосны.
Танчаць у полымі сосны.
Колькі іх! Колькі нас...
Над абуджанай Ворсклай
Рушаць дзіды-занозы,
Стрэлы тычуцца млосна.
Колькі іх! Колькі нас...
Рэжуць крыкі па сьпінах.
Кроў, як цёплая гліна.
Цьма шчытоў– быццам ціна,
А пад цінаю – мы...

ЖАБРАК

Няспынны позірк ўсьцяж рваньня.
Ці гэта я?
Ці гэта –
я?

САМАЗАБОЙСТВА

Яго не пасяклі нажы,
не пасяклі пустыя гукі.
Цьвікі іржэлі, і крыжы
бясконца
апускалі
рукі...

***

Я не шукаю перамогі.
Стаміўся я перамагаць,
І вузкалобыя парогі
З прашэньнем «выжыць!»
аббіваць.

***

Пад утульнай пятой раднога Іуды
Сьпіце спакойна, беларускія людзі.
У куродым зноў цягне нас любы
усход.
Сьпі, сьпі спакойна, павольны народ.
Кроў забітых сьвятых па крыжах
пацякла.
Сьпі спакойна-спакойна, сьвятая
зямля!

## Аляксей Бруй

***

Крыкі гучаць
Яны хочуць мяне
Я ня буду чакаць
Я ўцяку на кане

Але голас грыміць
І ляціць за мной ўсьлед
І мяне захапіць
Хочуць тысячы бед

і сон, толькі сон
Дапамогу мне шле
Як ад вады парасон
І як сьвет у імгле

Можа хопіць крычаць
Каб знайсьці цішыню?
Знoўку ўсё не пачаць
Я надзею зламлю

***

Я стаміўся. Тушыце сьвятло.
І разбаўце віном мой чай.
Я забуду ўсё, што было.
І застанецца толькі адчай.

***

Стол. Я сяджу за ім.
Агарак сьвечкі даўно заснуў.
Што застанецца ім,
Калі і я ўжо патануў.

Ноч. Што чакае яна?
Якую ахвяру забярэ з сабой?
Я іду пад ахову сна,
Каб там ізноў сустрэцца з табой...

## Тацяна Будовіч

ХЛОПЧЫК ЗІМА

Пласт сьнегу на агароджы.
І півоні пад сьнегам сьпяць
Каля ганку старога дома.
Пласт сьнегу – на аканіцах,
І ў ліхтарным сьвятле – бліскучы –
На скрыжаваных руках
дужых вялікіх дрэў.

І на тваёй галаве – сьнег.
Як ня холадна?
Паветра пранізвае нас
Наскрозь ільдзянымі сьпіцамі.

## Уладзімер Васількоў

ЗАЎСЁДЫ ТВОЙ

Далягляд фарбуе сонца.
Вечар ціха праплыве.
Зноў гатовы я бясконца,
Вечна думаць пра цябе.

Шэпчуць вецер мне і дрэвы
Тваё сьветлае імя;
Ты – царыца, каралева
Сэрца палкага агня.

Бачу зноў, як у люстэрцы,
Мілы, лёгкі вобраз твой,
Адгукнецца зноў у сэрцы,
Нібы песьня, голас твой,

Адчуваю зноў чароўны,
Таямнічы позірк твой;
Заварожаны цудоўна,
Я цяпер заўсёды твой.

АЧЫШЧЭНЬНЕ

Як бясцэннаму ідалу,
Я табе пакланюся,
І, назваўшы любімаю,
Да цябе прыхілюся,
Сваім сэрцам прачнуўшымся
Тваё сэрца пачую,
Зьзяньню месяца сумнага
Сваю тайну скажу я,
Ў акіяне адданасьці
Патаплю я сумненьні,
У каханьні крынічным –
Ад грахоў ачышчэньне.

НІБЫ ЯБЛЫНЯ РАСЬЦЬВІЎШАЯ...

Нібы яблыня расьцьвіўшая,
Ты, каханьне, зноў прыйшло,
Ціхім, непрыкметным быўшае,
Вееш страснае сьвятло.

Дрэўца кволыя галіначкі
Чэрвень сонечны таяць,
Вабяць міленькай дзяўчыначцы
Слова першае сказаць.

Ў веснавой квітнее сьвежасьці,
Ў новага агню красе,
І прыемнаю залежнасьцю
Нас трымае ля сябе.
...........

Ў рай зямны спакуса кліча нас
Яблыкам пазнаньня залатым.
Дрэўца дні даўно падлічаны,
Мы з табой расстанемся пад ім.

## Аляксандар Голуб

***

Чыстага неба над галавой
Табе, Беларусь, жадаю!
Яснага сонейка зь мілай душой
Зычу я роднаму краю!

Хай зацьвітуць на лугах васількі,
Жаўранкі хай засьпяваюць,
І белакрылыя матылькі
Над Беларусьсю лунаюць!

Зьнікнуць няхай у нябыт назажды
Сьлёзы, боль, крыўда, няшчасьце,
На шматпакутнай нашай зямлі
Вечна хай будзе жыць шчасьце!

АБ ЧЫМ ГАВОРАЦЬ КОЛЕРЫ

Белы конь – сымбаль праўды, дабра,
чысьціні,
Незалежнасьці і ўваскрашэньня;
Срэбны рыцар на белым кані –
Перамогі і адраджэньня.
Мужнасьць, сьмеласьць, у бітве
агонь –
Гэта колер чырвоны самы,
Ён раскажа, як славу ў баях
Нашы продкі сабе здабывалі;
Мужна біліся як да канца
Пінчукі, магілёўцы, мянчане,
Даўшы слова стаяць за зямлю
Да апошняй хвіліны дыханьня.

## Надзін К.

***

Прыкуты сэрцам да зямлі,
вачыма – да неба,
Ён ляжыць на маёй далоні –
сонечны зайчык.

***

*Ш.Ш.*

Ён мне ня сябра, не каханак,
Ён усяго толькі мой адрасат,
Што прымушае зьвяртацца да сябе
Ня толькі ў лістах.

***

Ружовыя аблокі,
Белы дом на гары,
Хто ў тым доме жыве,
Ня ведаю я,
Але вочы мае
ўжо гадзіну пільнуюць вокны.

***

«Каханьня да труны не бывае», –
запэўніваў ты мяне,
Ды паверыць у гэта не ўдаецца:
Чорны мак, ружовы граніт...

***

Штоночы ўваходжу ў небыцьцё,
Ратую душу ад перажываньняў –
І пачуцьцё ўласнае непатрэбнасьці
Захоўваю, як найвялікшы скарб.

***

Азёры-вочы глядзяць нерухома.
Пакінулі дом свой жыхары.
Чырвоная глеба сьціскае іх звонку,
Чорныя нетры смокчуць знутры.

***

Зялёныя валасы,
Чырвоным намаляваны рот,
Блакітныя вочы
І рыжае шчэцьце шчок –
Не, гэта ня клёўн, ня той,
хто сьмяшыць дзяцей.
Гэта той, хто пужае дарослых,
Выклікае ў іх абурэньне
І гідлівасьць да свайго існаваньня.

***

Я бачыла прыгожага нячысьціка,
прыгожага, як лік месяца
За ледзь прыкметнаю наміткаю
аблокаў,
Ён калыхаў дзіця,
Сьпяваў яму пясэнкі
І абяцаў вярнуцца назаўжды,
Пакінуўшы на небе рогі-капыты.

***

Неагучанае кіно –
гэта нашыя з табой размовы,
гэта нашыя з табой сустрэчы
і прызнаньні ў вечным каханьні.

## Яўгенія Каляда

***

Пяшчота
імхом сагрэтым
цёплаю зямлёю
лясною
пяшчота
жоўтым пяском
на беразе ручая
маленькага
пяшчота
цёплымі крыламі
цябе абдыме
пяшчота
мяккімі аблокамі
цябе агорне
пяшчота
паветранымі рукамі
да цябе дакранецца
цёплымі вуснамі
цябе пацалуе
у лоб
Кахай мяне!

## Ігар Камікадзэ

BELARUS UBER ALLES!

*Дзякуй N.D. за ідэю*

За плякаты з адбіткам Пагоні
Забіраюць людзей па начох.
На рэнтгенамі спаленых гонях
Не адзін ужо геній пасох.
І на бруку цэнтральных вуліц
Засталася нязмытая кроў.
Горад сьпіць, як разбураны вулей.
Толькі крокі чужых патрулёў
Вымяраюць начное зьмярцьвеньне...
Вокны згаслыя сочаць за тым,
Як пачвары ў шэрым адзеньні
Сынтэзуюць з гісторыі дым.
Сёньня – Сьвята расьпятае мары.
Навакол – жыцьцярадасны брэх.
І партрэтаў абрыдлыя твары
Выпраўляюць адэптаў на грэх...
Ды рэклямнага стэнду акраец
Мы заўважылі разам з табой.
Як пароль –
Belarus uber alles! –
Надпіс спрэем на мове чужой...

***

Прабач нам, пане прэзыдэнт,
Што не з твайго электарату,
Дарэчы, большы нас «працэнт»,
Чым ты вярзеш на кожну хату,
Дзе можа твой «Бэ-Тэ» лавіць
Да ўсіх прыхільная антэна.
Ты ж, як раней, на клюбнай сцэне
Гундзіш адно, што лепей жыць
Мы «пад табою» быццам сталі...

Кудысьці ўсё пазапускалі...

***

Грамадзяне Княства Літоўскага –
Раскіданыя лёсам па сьвеце,
Пацярпелыя з жарту боскага,
Быццам кулі на рыкашэце.
Быццам хлеб не па-людзку
скрышаны.
Не пачуць сёньня песьні і казкі.
На зямлі сваёй быццам лішнія,
Як на ўзбочынах кволыя краскі...
Неба ў хмарах над хворай Радзімаю
І сьцягі над ёй сёньня чужыя.
Ды часы незабытыя тыя –
Гонар маем. І помнім – ліцьвіны мы!

## Яўхім Корчак

***

Муку мяшаю ў вадзе:
раблю цеста.
Каляніяльная форма пратэсту.

Будуць бліны.
Аладкі.
Чорныя, як нашчадкі.

У сярэдзіне падобныя
на сонца,
што бокам абходзіць наша ваконца.

Час ляпіць цеста,
а ня камні.
І досыць, пэўна, біцца ілбамі.

Напячэм аладак
ды наямося.
Тады і на волю ўжо падамося.

ЭПІТАФІЯ ДЛЯ Б...

Вам акрэсьлілі мэты,
паказалі кірунак,
у мазгі ўпіхнулі
шэры ком ерунды.
Каб хадзілі па сьвеце
у шуканьні Камуны
і каб потым заснулі
пад навершам зьвязды.

***

Народ ня вучыцца.
Народ жадае есьці.
Навошта пішуцца гісторыі тамы?
Складзіце вы народу лепей песьні
ды нацадзіце гары ў жбаны.

Ён будзе піць і славіць вінаробаў,
а разам зь імі іхных ўладароў.
За гэта шчасьце, радасьць для
вантробаў
іх ня стрымае ні агонь, ні кроў.

Любі, ўладар, сінільную басоту,
перахадзі з народам на жаргон,–
і вывядзеш тутэйшую пароду:
пад сьцягам зь песьнямі пад
самагон...

## В.Л.

ГІМН ФІЛЯЗОФІІ

*(частка 5 паэмы)*

Ля зьнямелага вогненнага шкла
на мяжы вільготнага паветра і сьвятла
тры павуцінкі дроцікаў стальных
павісьлі,
зьбягаючы адносна неба ўверх і ўніз
і зноўкі на імгненьне застываючы ў
паветры
балоты, рэдкі хмызьнячок і ручайкі
і рэдкі цягнічок над безданьню
прычын
і абсалютна белыя слупкі бяроз
ды да такой ступені белыя, што
іменна такую бель
стаў ужываць Гасподзь
пры афарбоўцы сьцен для рая,
за выключэньнем чорных ліній
упоперак ствалоў,
зірні сюды, Гертруда, якая скруха,
Афелія, прыглянь,
і хопіць для душы прамоўленага
слова,
зьнянацку каб падзьмуў зялёны вецер
са звыклай у большасьці сваёй да
фарбы
колеру пяску ў пустэчы,
і менш адносны там жа да
раптоўнасьці галін
зялёны вецер, вецер бодрай Мэкі,
і засталіся толькі рысы вуснаў белых,
якія Нешта, Неш-та шэпчуць,
шэпчуць з жоўтай цемры
аскепкамі ўжо адышоўшага у
небыцьцё сьвятла...

## М.Міхееў

***

Захацелася яму «власти»,
І пачаў ён...
Не, ня красьці,
А лавіць усіх, хто краў,
Толькі рукі не мараў...
Ля мікрафону трэс паперы,
І народ яму паверыў,
І народ яго абраў...
Ён за гэта абабраў
І казну, і бібліятэку.
Вось і вер так чалавеку...
І ня трэба было красьці,
Бо народ жа давяраў!
Можа, проста было класьці,
класьці...
Бо ніхто ж не правяраў!
Налажыў сваю кішэню
(Можа, дна там не было)
Уявіце яго жменю,
А язык – як памяло.
Сам прыкінуўся ён «нішчым».
Заявіў, што МЫ ўсё зьнішчым.
Во! Куды нас завяло...

## Аляксандар Пазьняк

***

Напрыканцы той песьні, што сьпявала
Ты мне між вербаў ля начной ракі,
Сваімі сьціплымі юнацкімі губамі
Крануўся я тваёй шчакі.

Здрыгнуўся голас малады, і сьціхлі
гукі,
І позірк свой убок ты адвяла;
Нібыта з кратаў вырваліся рукі,
Як быццам разгарнулася зямля.

Над намі зоркі ветліва мігцелі,
Я цалаваў твой твар, твой стан, а ты,
Ты на мяне, ласкавая, глядзела;
«О мой каханы!» – гаварыла ты.

Пяшчоты нашы сонца разбудзілі,
І пацалункі турбавалі салаўя;
У нетрах шчасьця разам мы блудзілі,
Дзе вельмі хораша было з табою нам.

## Юрась Півуноў

***

«Бывают дни,
Когда опустишь руки.
И нет ни слов,
Ни музыки, ни сил...»

Спакою не знайсьці
Душы збалелай,
Чорнай паласой
Ідзе жыцьцё,
Хоць каму цікавае Паэта
Ціхае, сьлязьлівае ныцьцё?
Бо лягчэй за ўсё –
Паддацца лёсу,
Не змагацца
Й не спрабуючы зьмяніць
Ўяўную фатальнасьць
Існаваньня...
А ўсяго і трэба –
Годна жыць!

## Браніслаў Пяткевіч

РОЗДУМ

Мой народ невінаваты,
Што ён сёньня не багаты.
З розгаў блудная мятла
З хлеба крошкі падмяла.
Нам казалі акупанты,
Каб мы мылі зь лёну транты
Ім і дзеткам іх на рост,
Нам дарылі доўгі пост.
Мы ня цямілі здаля,
Хто трымаецца руля.
Цяжка ў стоме працавалі,
Не прасілі аб прывале,
Пальцы мелі мазалі,
А далоні крамзалі.
Сёньня воля ў паветры,
А інстынкт свідруе нетры,
Каб зь нядоляй чорнай гаць
У глыбіні закапаць.
Каб празрыстая рака
Змыла немач зь бедака.
Каб і жыта, і пшаніца
Далі хлебу нарадзіцца.
А працоўны чалавек
Зерне клаў у свой засек.
Каб па волі, не загаду
Ён любіў сваю уладу.
І яго уласны пот
Здабываў жыцьця аплот.

## Алесь Шадрын

АКРАВЕРШ

Мая каханая дзяўчынка!
Ігрывасьць, сьціпласьць, твой імпэт,
Ласкавы погляд, як іскрынка,
Аздобяць фарбамі сусьвет!

Я так хачу, каб ты заўсёды
Адзінай казкаю была,
Любоўю, бляскам асалоды,
Адбіткам дзіўнага сьвятла!

ЧОРНАЯ МЭЛЁДЫЯ

Чорную песьню я сёньня пачуў,
Ейны сьмяротны матыў
Сумным адбіткам мой сьвет атруціў,
Сэрца маё скалануў.

Пальцы мае пачынаюць дрыжаць,
Боль уварваўся ў душу,
Тое, што мусіў сказаць, не скажу –
Час надышоў паміраць.

Хутка пабачыш, як зрэнкі мае
Змрок адлюструюць труны;
А апасьля зноў дыханьне вясны
Шчырым сьвятлом запяе,

Толькі мяне ўжо ня будзе, бо я –
Чорную песьню пачуў,
Я, з асалодаю, урэшце, спачнуў
Промнем пагаслага дня.

# ВОСТРАЎ

*Працяг са старонкі 11*

адтуль, то ўсё пайшло прахам.

Дзядуную звалі, якя ўжо казала, Апалінарам, а вось імя бабуні Зоня забылася: ці то Стэфа, ці то Пэля. Хата ў іх была велізарная й жылі яны, тры пакаленьні, разам. Усяго 17 душ. Жонка Яна Матусэвіча мела падвойнае імя: Караліна Валерыя з дому Арцюшэўскіх. Гэта ў яе гонар мая бабка Клемянтына й назвала сваю дачку Карольцяй.

Цёці Карольці не падабаецца сваё імя, бо «надта ж доўгае». Вельмі цікавы яна чалавек. Скончыла 7 клясаў, мела шырокі сьветапогляд і на вёсцы лічылася ці ня самай вучонай. Перад вайной рабіла праваднічай, вазіла беларускіх артыстаў у цягніку. І вось, памятаю, паехалі мы зь ёй у Менск наступаць у мэдвучэльню. Ідзем па горадзе, а яна пытаецца ў першага стрэчнага: «Скажэце, калі ласка, дзе тут вуліца Максіма Горкага?» А былі гэта самыя зрусіфікаваныя 70-ыя гады, і для мяне, школьніцы, якой за 8 гадоў навучаньня прышчапілі зьняважу да ўсяго свайго, пытаньне тое прагучала, як грунтоўная лекцыя на тэму багатай культуры роднай зямлі.

Мая бабка Клемянтына, як магла, захоўвала культуру свайго роду. Вось і старэйшаму сыну дала падвойнае імя: Віктар Аляксандар. Не памагло тое, загінуў ён на вайне. Наогул, яна была ўладарнай жанчынай, шанавала сваю радню, адсоўваючы ў бок дзедкаву.

Але вернемся да хаты Яна й Караліны Матусэвічаў. У іх было 13 дзяцей, што нараджаліся прыблізна праз 2 гады. Старэйшая Юзэфіна была дзесьці з 1892 году. Тады Яніна, Клемянтына, Гвідан, Павал, Леакадзія, Вільгельм, Эмілія, Ігнацы, Ян, Зоня, Стась, апошні Баляслаў з 1918 году. Савецкая мараль тлумачыць, быццам даўней нараджалі шмат дзяцей, бо таго патрабавала сялянская псыхалёгія. Калі ж паглядзець на ўсё з вышыні, убачыцца, што гэта быў Натуральны лад жыцьця Вострава. Наўрад ці маглі гэтыя малаадукаваныя людзі сфармуляваць тое, што, прыкладам, я ўжо сфармулявала: грэхам зьяўляецца нават прадухіленьне ад лёсам вызначанага зараджэньня дзіцяці, але сэрцы іхныя ведалі Статут Брацтва.

Выйшла замуж Юзэфіна за летувіса Вінцэнта Бутліса й паехалі яны на заробкі ў Канаду. Юзэфіна там неўзабаве памірае й перад сьмерцяй просіць мужа, каб той прыехаў у Востраў і ўзяў замуж ейную сястру Яніну. І ён тое зрабіў, бо памятаў Статут цераз жанчыну.

Гвідан з вайной патрапіў у палон, адтуль яго таксама забралі ў Канаду. Адтуль, з Канады, яны памагалі свайму раскіданаму ўжо Вострава, пасьля вайны асабліва істотна.

Мая бабка Клемянтына ў 1915 годзе выйшла замуж за майго дзедку Міхала Судніка ў Камароўшчыну, вёску мо кілямэтраў 12 ад Вострава. Бабцы было 20, дзедку 34. Яны мелі чатырох сыноў і трох дачок. Ад рэпрэсіяў іх уратавала толькі кульгавасьць дзедкі ды, магчыма, нейкія хітрыкі з падзелам хаты, бо ўсіх заможных гаспадароў бальшавікі зь вёскі павысылалі. О, як Суднікі ставілі новую хату! Прыйшлі з Вострава сем братоў Клемянтыны. Хлопцы, што дубы! Уся вёска дзівілася з тае работы! Хлопцы, хлопчыкі, Дзяды мае, Брацкі родныя… І амаль усе ж Вы паляглі, коштам сваіх жыцьцяў арганізаваўшы заслону той чорнай сіле, што навалілася на нашу зямлю…

Паўлюць быў жанаты, меў дваіх дзяцей, прыстаўшы ў прымы на Басарэўшчыне (цяпер і Басарэўшчына, і Калодзеўшчына зьліліся ў адно Масьцішча), калі яго схапіў хапун. Як расказвала мне цёця Альдоня, ён рабіў драцянікам (электрыкам) на вольным пасяленьні ў Воршы. Сканаў на слупе ў кагцях у 1937 годзе.

Вілюсю ў 1922-м было 18, і быў ён за кармільца ў сям'і, бо памерлі ўжо бацькі, калі яго схапілі й турнулі на вайну ў Туркестан. Лёдзя яго вызваляць езьдзіла аж да Чарвякова. А той сказаў, што не павінны былі забіраць па законе, але ўжо позна, і ён нічым ня можа дапамагчы. Праўда, на першы раз Вілюсь яшчэ вярнуўся ў Востраў, затое пазьней энкавэдысты расправіліся зь ім. Нежанаты быў, як і наймэншы Болюсь, які таксама, відаць, патрапіў у іхныя лапы, бо прапаў хлопец бязь вестак.

Стась загінуў у першыя дні вайны, і на Яся «прыйшло ізвяшчэньне, як на пагібшага». Цёця Карольця памятае Яся, разумнага, спакойнага хлопца. Даваў ёй навушнікі – слухаць радыё.

Адзін Ігналя вярнуўся з вайны жывым, але ён страціў жонку, якую немцы павесілі за партызанства. Ажаніўся другі раз, але Яніна (па-савецку – Надзя) неўзабаве памерла зь нейкай хваробы. Гадаваў адзін дзьвюх дачок, апошнім часам асталяваўся ў Слуцку. Часта прыяжджаў да нас, я памятаю яго, спакойнага, разважлівага. Памёр 12.04.84, пражыўшы 75 гадоў.

Паклажа жанчын з Вострава была не лягчэйшая, проста па прыродзе сваёй жанчыны цярплівейшыя за мужчын. А цярпеньне ёсьць разуменьне таго, што адбываецца. А калі разумееш, тады ймкнесься найспрытней разьмеркаваць груз на плячах, бо несьці яго трэба ўсю доўгую дарогу. Тады свая сярмяжка ня цяжка. Хоць, канечне, было ўсяго і ў жанчын. І няшчасьце было, і сьмерць. Вось як у Амількі. Езьдзіла дзяўчына ў Сьверынава, на матчыну радзіму, калі яшчэ была адкрыта мяжая. Было то напрадвесьні, а на ёй былі туфелькі ды лёгкае паліто, у адрозьненьне ад ейнае прыяцелькі, якая была ў кажуху ды валёнках. Ехалі па Нёмне на санках, праваліліся пад лёд. Амілька захварэла, адняліся ногі. Апошнюю карову прадалі, лячылі ў Менску, у доктара Шапіры, ды ён скалечыў дзяўчыну: яна не магла ўстаць. Памерла ўжо маці, на вайну забралі ў кастрычніку Вілюся, а Зоні было ўсяго 9 гадкоў – не было каму даглядаць спаралізаваную Амільку. А ў яе пайшлі пролежні, трэба было варочаць. Вілюсь перад адыходам купіў сястры вянок і сукенку, і тая ўсё прасіла паказаць ёй куплю. Памерла ў лістападзе 1922 году ў 16-гадовым веку.

А вось пра Лёдзю я мала што ведаю, хоць і жыла яна бліжка, у Менску, і памерла нядаўна, у 1991 годзе. Нібы муж ейны служыў немцам і пасьля вайны ўцёк зь імі. Прозьвішча ў яго было –Басарэўскі, тутэйшы хлопец. А Лёдзя, дзякаваць Богу, даста-

# ФРОНТ

*Працяг са старонкі 11*

ся і адчуў, як па целе прабеглі дрыжыкі. У акопнай гразі сапраўды ляжаў чалавек. Вытыркаліся яго сыцёгны й абрысы тулава. Я прасачыў абрысы далей і ўбачыў ягоны твар. Правільней, толькі шчаку й край рота. На яе нехта ступіў і абцасам садраў начыста ўсю гразь. Астатнюю фігуру гразь затапіла канчаткова. Скура на шчацэ бялела, нібы адмысловая крэйда і, здаецца, сьвяцілася. Яго бязьлітасна затапталі ў гразь. Відаць былі толькі наскі ботаў ды белая шчака.

— Глядзіце, — усклікнуў я, — у гразі чалавек!

Салдат глыбока зацягнуўся.

— Пэўна, немец. Сядзеў у ячэйцы, а зьверху міна стукнула. Ён і валіўся ў акоп. А пры адступленьні яго й затапталі. Гэта точна немец. Іх тут наверсе шмат валяецца, вось і ў акопах трапляюцца. Яго пячурка выкапана ад нашага боку, каб кулі ды асколкі не траплялі. А вось гэтую ячэйку, — ён паказаў рукою на супрацьлеглую сьценку, — ужо наш салдат выкапаў, каб ад немцаў закрыцца. Раней нам рыдлёўкі давалі, а вас, бачыш, бязь іх выправілі.

Раптам гучны агідны гук данёсься здалёк. Быццам па велізарным мэталічным лісьце прабарабаніла штосьці тупое й цяжкае. І тут жа недзе блізка ўдарыла некалькі выбухаў, што амаль зьліліся ў адзін.

— Нешта рана сёньня Ванюша! — прытушыў недакурак салдат. — Гэта сяміствольны нямецкі мінамёт. Нашы яго Ванюшам клічуць, або яшчэ Скрыпуном, ці Скрыпачом.

Ён хацеў яшчэ штосьці дадаць, але не пасьпеў. Паветра заныла, зазьвінела, зафыркала, і на нас абрынуўся страшэнны грукат. Тугі камяк паветра ўпаў у акоп, шугануў па траншэі, піхнуў нас у грудзі. Адначасова зьверху сыпанула сырой зямлёю, дробным каменьнем. Разам з гэтым уваліўся незнаёмы вострý пах чагосьці гарэлага й агіднага. Магутныя выбухі калыхалі зямлю. Яна паехала кудысьці ўбок. І гэтак моцна, што каб стаяў, не ўтрымаўся б на нагах. Салдат, сагнуўшыся, пабег траншэяю й зьнік за паваротам. Зямля гайдалася так, быццам па ёй малацілі шматпудовымі бабамі, якімі забіваюць палі. Выбухі зьліваліся ў суцэльны грукат. Гэта было штосьці неймаверна жудаснае. Зьверху бесьперапынна ляцела зямля то дробнымі кавалкамі, то цэлай лавінай. Такога страху я ніколі ў жыцьці не адчуваў. Заплюшчыўшы вочы, я толькі чакаў, ці хутка ў мяне трапіць снарад. Становішча было безвыходнае. Ні ўцячы, ні схавацца не было куды. Ад грукату й безвыходнасьці, здавалася, расколецца галава й разарвецца сэрца. На момант я расплюшчыў вочы і ўбачыў Рака ў пячурцы. Ён уціснуўся ў глыбіню яе й таропка хрысьціўся. Я ўспомніў лісты маці, што яна кожны вечар і раніцу просіць Бога, каб ён зьбярог маё жыцьцё. Я таропка перахрысьціўся й зашаптаў:

— Божа! Выратуй мяне! Выратуй мяне!

Зямля гайдалася, выбухі грукаталі, сьвісталі й плюхаліся аскепкі. Амаль ня цямячы, што раблю, я папоўз да абваленай ячэйкі. Там я ўсеўся на ботах забітага немца. Мне падумалася, што калі яго тут забіла, то й мяне заб'е. Але тут хоць на галаву нічога ня сыпалася. Быў хоць нейкі зацішак. Зрэдку я адчыняў вочы, але ўжо нічога ня бачыў й не разумеў. Страшэнны грукат і жывёльны страх сьмерці пазбавіў мяне ўсялякай разважлівасьці.

Безупынны грукат прарэзаў раптам адчайны гучны крык.

— Ой! Помогите! Ой!

У іншы час я, безумоўна, кінуўся б на такі крык, але цяпер я проста ня мог пакінуць пячурку й выбрацца пад гэты абвальны грукат. Мне здалося, што крычала жанчына. Незразумела, адкуль яна тут узялася. Хаця ў запасным, у санчасьцы яны былі. Старыя салдаты, калі жанчыны йшлі па дарожцы, крычалі: «Рама! Воздух!» Чамусьці яны не любілі жанчын.

Пасьля крыкі заціхлі, а можа іх заглушылі выбухі. Ня ведаю, колькі доўжыўся гэты грукатлівы кашмар. І раптам усё сьціхла. Дзесьці побач грымнуў адзінокі выбух, і наступіла поўная цішыня. Гэта была адмысловая цішыня. Ціхенька шапацеў ветрык, зверху ў гразь акопу сыпаўся пясок, а ў галаве маёй зьвінела незвычайна тонкая струнка.

— Проста дзіва, як гэта ніводзін снарад ня трапіў да нас у акоп! — сказаў Рак. — А побач нехта крычаў. Відаць, зачапіла!

— Зірнуць, ці што! — падахвоціўся я, у радасьці, што мы засталіся жывымі. Я асьцярожна высунуў галаву за паварот траншэі. Тут амаль на сярэдзіне калена ляжаў салдат. Над ім варушыліся яшчэ двое. Яны закручвалі яму ногі нечым белым, запэцканым у крыў. Я ўжо хацеў падацца назад. Але адзін з двух узьняў галаву, і я пазнаў таго нашага салдата.

— Перажылі артналёт, гэта добра. У атаку, бач, не пайшлі.

Ён гаварыў і ў той жа час замотваў нагу ляжачага, якую падтрымліваў другі салдат.

— Слухай, можа ў цябе бінт ёсьць?

— Не. — адказаў я. — Нам ня выдалі.

— Я так і думаў. Крычы!

— Санітар! Санітар! — На ўсё горла закрычаў другі салдат. Я аж здрыгануўся ад нечаканасьці.

— Можа ў цябе якая бялізна ёсьць? Я свой бінт на тую нагу патраціў, а з гэтай вельмі кроў цячэ. Няма чым закруціць. — Мой знаёмы салдат патрабавальна зірнуў на мяне.

Я таропка рвануў з плячэй мяшок, там у мяне ляжала хатняя ніжняя кашуля. Я выцягнуў яе й распаласаваў ад каўняра да нізу. Затым разарваў напалам, і адну палову даў салдату.

— Адну нагу ёй адарвала да калена, а ў другой толькі ступню. Яна сядзела ў пячурцы, а туды трапіла міна.

— Яна? — зьдзівіўся я і зазірнуў цераз плячо салдата. Убачыў зьбялелы дзявочы твар і цёмную пасму валасоў, што выбілася з-пад вушанкі. Пасма была ня вельмі доўгая, але, зразумела, не мужчынская. Мы ўсе былі астрыжаныя пад машынку.

— Дык яна ж нежывая! — усклікнуў я, прыглядаючыся.

— Не! — паглядзеў ёй у твар салдат. — Яна страціла прытомнасьць ад болю. Яна спачатку крычала, а як мы падбеглі, усё ляжала ціха. Толькі ногі прыўзьняла, каб у гразь не запэцкаць.

— Мэдсястра? — запытаўся я.

— Ды не. Снайпер, — кіўнуў ён на вінтоўку з аптычным прыцэлам, што ляжала побач у гразі. — Тут іх некалькі, такіх дзяўчат.

Салдат закасаў штаніну вышэй калена й закруціў нагу палатном, тоўста, нібы лялечку. Калі зьявіліся два салдаты з насілкамі, мой знаёмы ўжо скручваў цыгарку. Салдаты флегматычна паклалі дзяўчыну на насілкі, і адзін санітар прыпаліў у саладата цыгарку.

— Шмат дастала на гэты раз? — запытаў мой знаёмы.

— З гэтага краю трое забітых, шасьцёра параненых. А з тае паловы, ня ведаю. Мабыць, ня меней.

Санітары панесьлі дзяўчыну.

— А вінтоўку?

— Трафэйшчыкі падбяруць! — адказалі мне.

Я таксама закурыў. Мне не хацелася ісьці ад гэтага бывалага салдата. Мы ўтрох моўчкі курылі. Я, здаецца, ні пра што ня думаў. Гэтулькі новых незвычайных уражаньняў давялося перажыць, што я ня мог спыніцца ні на адным. Я разумеў толькі, што я слабы, безабаронны чалавек. Толькі выпадкова я не аказаўся ў такім становішчы, як гэтая няшчасная дзяўчына.

ла дакумэнты й грошы за яго атрымлівала. Такія рэчы тады хавалі. Мала ў каго было ўладкаванае асабістае, сямейнае гняздо, таму й пільнаваліся так гнязда агульначалавечага, брацкага.

Заглянем цяпер у Матусэвічаву хату, калі жылі яны не раскіданыя, усёй вялікай Супольнасьцяй трох пакаленьняў. Расказвалі мне пра тое бабка Зоня ды цёця Карольця, якая ўцякала ў маленстве ад сваёй работы з Камароўшчыны ў Востраў. Хата велічэзная! Хлеў, гумно. Ворнай зямлі было з гектар. Сенакос быў у іх кепскі, то мусілі трымаць усяго адну карову. Засявалі сырадэлю. Частку зямлі пусьцілі пад пасеку, а то пад лес. Перакуліся цераз агароджу – зьбірай колькі хочаш суніцаў, чарніцаў, дурніцаў, журавінаў, усякіх грыбоў! Бывала, пакуль Зоня напаліць печ, ранічкай хлопцы панапрыносяць ёй кашы вялізных грыбоў!

Дзядуня Апалінар жыў 110 гадоў. У дзень сьмерці шчэ схадзіў, памалаціў грэчку суседцы. Прыйшоў дахаты, памыўся, апрануў чыстую кашулю, залез на палаці, затым лёг у ложак і запрасіў дачок да сябе. Чакаў доўга адну дачку. Дачакаўся нарэшце й памёр. Было гэта ў 1919 годзе. Так што казкі часта нам кажуць чыстую праўду.

А бабуня, як і Зоніны бацькі, памерла праз год, у студзені. Уся сям'я ляжала пад тыфусам, які занесьлі нямецкія салдаты, што начавалі ў іх. Першай памерла бабуня. Было ёй 95 гадоў. Затым памёр бацька. Зоня ўспамінае, як папа (мая мама са Сьверынава кажа – тата; у Матусэвічаў – папа) сядаў на зэдлік каля сям'і й бедаваў: «Дзеткі, мае дзеткі!» Ён, хворы, мусіў даглядаць гаспадарку, бо на матчыных руках былі дзеці: малодшаму Болесю ці споўнілася два гадкі.

Востраў даваў волю, але й накладаў вялікую адказнасьць. За памылкі даводзілася надта дорага плаціць, часта коштам свайго жыцьця, як бачым. Тут жа старэйшае пакаленьне дзяліла агульны горкі лёс сваёй зямлі. Папа ўночы аглядаў гаспадарку. Устрывожаная мама разбудзіла Вілюся, каб той пашукаў бацьку. Вілюсь стрэў яго на ганку, а ўдзень ён памёр. Гэтыя людзі паміралі, як жаўнеры. Кожны зь іх нёс сваю паклажу да канца, не імкнучыся скінуць, бо ведалі, што за кожны няўдалы рух баліць беднае сэрца. Ян Матусэвіч пражыў 55 гадоў. Апошняй, у самым канцы студзеня, памерла Караліна Валерыя. Хавала мужа, прастудзілася, захварэла на запаленьне лёгкіх. Было ёй усяго 45. Першая чорная хваля злой навалы выбіла старэйшую генэрацыю; будзе й другая, якая разбурыць саму хату, увесь Востраў.

А пакуль што маладыя памкнуцца паставіць новую хату, бо старая ўжо струхнела. Грошай не было, то яны прадалі частку старой хаты ў Негарэлае. Зачалі будаваць новую, а тут ужо калхозы прыйшлі. Хлопцаў «давялі да двара» – значыць, наклалі на іх непасільны падатак, і мусілі Матусэвічы прадаць хату ў Койданава Шмею, тагачаснаму старшыні калхоза. Хату перавезьлі на цяперашнюю 1-ую Ленінскую вуліцу. Стаіць насупраць аптэкі, побач з баракам, дзе была некалі бальніца. Пра гэта прагаварыўся-ткі мой бацька неяк. А я схадзіла сёньня, разьведала дакладны адрас: вуліца 1-ая Ленінская, 46. Хата добраўпарадкаваная, абкладзеная цэглаю, суседзіць з ваенкаматам. Як варам мяне абліла старая бабка, да якой я зьвярнулася па даведку: «А что за интерес такой? Там уже все перестроено, живут совсем другие люди... Может вы с какой другой целью интересуетесь?!»

Калхоз зрабіў пчэльнік на месцы Матусэвічавай хаты, і жыхары Вострава разышліся хто куды. Болюсь і Вілюсь рабілі кавалямі ў Тоўстым лесе, Ігнат і Стась – у Комале, на Вузьдзеншчыне, на дрэваапрацоўчым заводзе. Зоня некаторы час хадзіла ў падсочку, зьбірала смалу, а ў 1935 годзе падалася ў Менск. Там мучылася, жыла ў сутарэньні, прыстасоўваючыся з вольніцы да казённых работаў, і дапамагала, дапамагала, дапамагала й сваім, і чужым, бо сэрца яе ведала, што ўсе людзі – браты.

У вайну Ігнат з жонкаю й двума дзецьмі вярнуўся ў Востраў і жыў у пчэльніку. Пасьля перабраўся ў Негарэлае да жыда Кізіна, а самога Кізіна схаваў у сваім гумне стары Ціжэўскі, што рабіў увесь гэты час пчаляром. У Дальнім Востраве стаяў нямецкі атрад, і немцы адтуль прыйшлі па сена да Ціжэўскага. Уткнулі салдаты сахор, а там нешта мяккае. Паглядзелі – пярына. (Халодна ж было!). За пярынай вывалаклі й жыда. Немцы забралі Кізіна й Рудольфа з Марыяй (не паглядзелі, што чысты немец быў!), а Ціжэўскага не зачапілі, сказалі: калі хочаш жыць –уцякай! Ён – на каня і ўцёк у Заходнюю. Пасьля вайны зноў вярнуўся й рабіў пчаляром, але гэта ўжо быў ня той Востраў і ня тыя людзі.

Даўнейшы Востраў перахоўваецца хіба ў Зоніным сэрцы 86-гадовай бабулькі, што сядзіць адна ў бруднай аднапакаёўцы па вул. Студэнцкай у Менску. Яна не крыўдуе на дачку, што цэлы месяц не заходзіць да яе. Яна шле са сваёй мізэрнай пэнсіі грошы ў турму ўнукам. Яна цераз мяне замовіла імшу ў Чырвоным касьцёле па сваёй палеглай радні з 18-ці чалавек. Яна – Маці, бо яна данесла памяць пра Востраў. І гэтая старая Жанчына ёсьць прадстаўніца Новай расы, бо рабіць дабро для яе гэтак жа натуральна, як дыхаць.

Падаючы ў якасьці эпіграфа слупок Міцкевічавага Камэнтару, я думала пра тое, што імя Адама Міцкевіча яшчэ веснавым сонцам шугане ў нашую хату, калі мы здолеем адмысь вокны. Адам Міцкевіч бараніў Культуру маіх дзядоў з Вострава. Я пачула крык Ягонай душы аб тым, каб жанчына ўзяла ў рукі Ягоную кнігу й пайшла дзеля таго ў Чырвоны касьцёл. Там, у сутарэньні касьцельным, мы зь Веранікай, дыяканам ды дзяўчынай Марыяй шукалі Papa Tadeusza. Разгубіўшыся сярод стосаў запячатаных кніг, я прасіла Бога, каб Ён памог мне. І памог. І знайшла я... Пасьля даволі доўга таргавалася з касьцельнымі людзьмі пра кошт кнігі, прычым я набівала цану, а яны зьніжалі. Ня так, як на кірамашы. Нарэшце, сыйшліся на 100 тысячах. Апусьціла я грошы ў касьцельную скарбонку. То няхай яны будуць сымбалічнай платаю за памінальную імшу па ўсіх маіх дзядах з Вострава. Хоць і ведаю, што за малітвы не бяруць грошай.



Мы яшчэ не дакурылі цыгарак, як зноў над галовамі зафыркалі, засьвісталі снарады й загрукаталі выбухі.

— Наша артпадрыхтоўка! — салдат глыбока зацягнуўся. — А я думаў, пасьля іхнага налёту мы перадышку зробім, нам сьняданьне прынясуць. Аднак не. Хутка ў наступ пойдзем. Ідзі рыхтуйся! Кулямёт свой не забудзься!

Рак задыміў усё калена.

— Курыць будзеш? — запытаў ён.

— Давай! — згадзіўся я, хоць толькі што выкінуў недакурак. «Цяпер тытуню не шкадуе, падумаў я, а ў запасным ні разу не пачаставаў».

Уверсе бесперастанна зьвінелі й фыркалі снарады. Зусім недалёка грымелі выбухі. Аднак цяпер было ўжо ня так страшна. Рак нават заўважыў:

— Як свае б'юць, дык неяк весялей.

Сапраўды, нягледзячы на страшэнны грукат і гайданьне зямлі, пясок у акоп ня сыпаўся, і асколкі ня падалі. Грукатала доўга. Затым разьнёсься гучны прарэзьлівы скрыгат, а неба перакрэсьлілі вогненныя палосы. На зямлю абрынуўся страшэнны грукат. Пасьля я даведаўся, што гэта ў канцы артпадрыхтоўкі некалькі хвілін білі Кацюшы. Я ўстаў і выглянуў з акопу. Над далёкім бугром клубіўся чорны дым. У ім пыхкалі снапы чырвонага агню. Страшна было аказацца на тым месцы ў гэты час. Як выбухі сьціхлі, аднекуль дакацілася раскацістае «ура». Гэта, аказваецца, пайшлі ў атаку штрафнікі. У той жа час мы пачулі недалёка гучны крык: «Вперод! Вылезай из окопа! Чего стоите! Вперод, такую вашу мать!»

— Чуеш? У наступ гоняць! Каб хоць дні тры далі асвоіцца, а то адразу ж у наступ! — паскардзіўся Рак.

Крыкі набліжаліся. «Быстрее! Застрелю!» Праз момант у нашым калене зьявіўся афіцэр. Я нават ня ведаю, камандзір роты, ці батальёна. І званьня не відаць, бо пагоны закрывала безрукаўная плашчпалатка. Твар у яго быў чырвоны, і злосныя шырока раскрытыя вочы.

— А вы чего стоите? — адразу закрычаў ён і ўзмахнуў наганам. — Еще когда били Катюши, вы должны были идти. Штрафники уже пошли! Уже их минометы оживают! Вы должны уже у проволки быть! А ну, быстро наверх и бегом вперед!

Я схапіў кулямёт і засьпяшаўся да прыступак, а выскачыўшы ў поле, адразу спыніўся. Лагчына адсюль здавалася нашмат шырэйшай. Першы бугор — не такім высокім і плоскім. Пад бугром ляжаў наш забіты салдат, а ля яго штосьці падобнае на аўтамат. На бугры ўспыхвалі дымныя клубкі разрываў. Таму неадрыўна цягнула назад у акопы. Але ж там быў афіцэр з наганам. Я зірнуў удоўж акопу. З таго краю, адкуль прыйшоў да нас афіцэр, салдаты йшлі па полі ўжо далекавата ад акопаў. Праўда, некаторыя паварочвалі й кіраваліся назад. Я таксама засумняваўся, ісьці мне пад разрывы, ці павярнуць назад. Але тут побач са мною зьявіўся Рак.

— Ня стой! — крыкнуў ён. — Бач, людзі ўжо пайшлі!

Але сам стаяў, першым бегчы не хацеў. А мо лічыў, што другі нумар павінен бегчы толькі за першым.

Я падхапіў у дзьве рукі цяжкі й нязручны кулямёт і пабег да бугра крыху правей ад забітага. Я перабег усю нізіну й толькі ля бугра спыніўся, бо моцна задыхаўся. На чаравікі наліпла па пуду гліны, і бегчы было неймаверна цяжка. Схіл бугра быў крутаватым, на яго так лёгка не ўзбяжыш. Частка салдатаў узьнімалася на вяршыню. Статкавы інстынкт падказаў мне, што адставаць нельга. Я нават не азірнуўся, дзе Рак, і зрабіў крок па схіле. Каб я зрабіў яго на хвіліну раней, ён бы, напэўна, быў апошнім у маім жыцьці. Я так мяркую, бо недзе нада мною разарваўся снарад. Асколкі праляцелі вышэй, а мяне ўдарыла толькі паветраная хваля й засыпала зямлёю. Я нават, здаецца, бачыў, як сьпераду ўстала цёмная сьцяна выбуху, але ручацца за гэта не магу. Штосьці цьвёрдае ўдарыла па галаве, і на мяне абрынулася цемра.

Калі я трохі ачомаўся, выгляд навакольля зьмяніўся. Сонца не было. Мабыць, насунулася нейкая хмара, бо ня можа быць, каб я прабыў у непрытомнасьці ад ранку да вечара. Мяне тузалі за плячо нейкія людзі. Адзін паправіў мне акуляры, і ў вачох крыху пасьвятлела. Круцілася галава, і ўвесь час хацелася легчы. Хтосьці падтрымліваў мяне з боку. Памятаю нейкую палатку пад абрывам. Побач матляўся белы сьцяжок з чырвоным крыжам. Пэўна, гэта быў санпункт пад берагам рэчкі. Але рэчкі я ўжо ня памятаю.

## ЛІСТ ДА КАХАНАЙ

*У той дзень, як ты, гадаўка,*
*зьехала ў тую паскудную Рыгу,*
*я прысьніў сон пра тое,*
*што страціў рукі й ногі,*
*і сяджу-жабракую ў інваліднай калясцы*
*на Зарачанскім мосьце.*
*А калі прачнуўся на раніцы –*
*па радыё лемантавала песенька пра*
*«драздоў любві й безнадзейнай*
*сласноты».*
*І я адчуў сябе Віянаўскім Маёрам,*
*вельмі нават здольным*
*вырываць зь мяккіх дзіцячых рук і*
*душыць нагамі пульхных хамячкоў,*
*кідаць камяні ў блудлівых котак,*
*рассыпаць сьлізьнякоў і каларадзкіх*
*жукоў*
*па палёх руплівых сялян,*
*а таксама*
*згвалціць Іжоту,*
*бо яна да гэтага дня не дапяла,*
*што чакае Трышчана.*

А.А.



# ПТУШКІ

Бруна Шульц



Надышлі жоўтыя, поўныя нудоты зімовыя дні. Парудзелую зямлю пакрываў дзіравы, працёрты, закароткі абрус сьнегу. На многія дахі яго не хапіла, і яны стаялі чорныя або ржавыя, гонтавыя стрэхі й выгбы, што хавалі ў сабе закопчаныя прасторы гарышчаў — чорныя, абвугленыя пралёты, што наставілі рэбры крокваў і бэлек — цёмныя лёгкія зімовых вятроў. Кожны сьвітанак адкрываў новыя коміны й дымнікі, што вырасьлі ўначы, выдзьмутыя начной віхурай праз чорныя трубкі д'ябальскіх арганаў. Камінары не маглі адмахацца ад крумкачоў, якія, нібы чорнае жывое лісьце, абсядалі ўвечары галіны дрэваў пад касьцёлам, зноўку адрываліся, трапечучы, каб урэшце прыліпнуць кожны да свайго месца на сваёй галіне, а на золку зьляталі вялікімі чародамі — туманы сажы, хлапякі сопату, трывожныя і фантастычныя, што плямілі мігатлівым карканьнем каламутныя пасы сьвітанку. Дні счарсьцьвелі ад холаду й нуды, як пазалеташні бохан хлеба. Прыступалі да іх з тупымі нажамі, без апэтыту, зь лянівай соннасьцю.

Бацька ўжо не выходзіў з хаты. Ён паліў у печах, вывучаў глыбінную існасьць агню, вычуваў салёны, мэталічны прысмак і вэнджаны пах зімовага полымя, халодную пяшчоту саламандраў, што лізалі бліскучую сажу ў гарлавіне коміна. Гэтымі днямі ён з замілаваньнем рамантаваў верхнюю частку пакою. У любую пару дня яго можна было бачыць, калі, прытуліўшыся на самым версе драбінаў, ён майстраваў штосьці каля столі, каля гзымсаў высокіх вокнаў, ля шароў і ланцугоў падвешаных лямпаў. Малярскім звычаем, ён карыстаўся драбінамі як аграмаднымі хадулямі, і пачуваўся добра ў той птушынай пэрспэктыве, побач з маляваным небам, арабескамі і птушкамі на столі. Ад рэальнага жыцьця ён аддаляўся ўсё болей. Калі маці, заклапочаная й засмучоная ягоным станам, спрабавала ўцягнуць яго ў размову пра сямейныя справы, пра плацёж найбліжэйшага «ultimo», ён слухаў яе з раздражненьнем, поўны неспакою, з дрыжыкамі на адсутным твары. І бывала, што перапыняў яе раптам заклінальным жэстам рукі, каб пабегчы ў кут пакою, прыльнуць вухам да шчыліны ў падлозе і з паднятымі указальнымі пальцамі абедзьвюх рук, якія выражалі найвышэйшую важнасьць дасьледу, слухаць. Тады мы яшчэ не разумелі сумнага сэнсу тых экстравагантных выбрыкаў, прыкрага комплексу, які дасьпяваў углыбіні.

Маці ня мела на яго ніякага ўплыву, затое вялікую пашану і ўвагу дарыў ён Адэлі. Прыборка ў пакоі была для яго вялікай і важнай цырыモніяй, якую ён ніколі не прапускаў, са спалохам і ўзбуджэньнем назіраючы за Адэлінымі маніпуляцыямі. Усім ейным дзеяньням ён прыпісваў глыбокае сымбалічнае значэньне. Калі дзяўчына маладымі й сьмелымі рухамі совала шчотку на доўгім дзержаку па падлозе, гэта было вышэй за ягоныя сілы. Зь ягоных вачэй ліліся сьлёзы, твар крывіўся ад ціхага сьмеху, а цела страсаў доўгі спазм аргазму. Яго ўражлівасьць ад козыту даходзіла да вар'яцтва. Дастаткова было, каб Адэля скіравала на яго палец, рухам, які азначаў казытаньне, і ён у дзікім спалоху ўцякаў праз усе пакоі, захлопваючы за сабою дзьверы, каб нарэшце ў апошнім упасьці жыватом на ложак і зьвівацца ў канвульсіях сьмеху пад уражаньнем самой уяўнай карціны, зь якой ня мог даць сабе рады. Дзякуючы гэтаму Адэля мела над бацькам амаль неабмежаваную ўладу.

У той самы час мы ўпершыню заўважылі ў бацькі зацікаўленьне да жывёлаў. Напачатку гэта была цікавасьць паляўнічага й мастака разам. Магчыма, была таксама глыбейшая, заалягічная сымпатыя бязвольнага да адзінакроўных і такіх адметных формаў жыцьця, экспэрымэнт зь нявыпрабаванымі сфэрамі быцьця. Толькі ў пазьнейшай фазе гэтая справа атрымала той несамавіты, блытаны, глыбока грэшны й супраціўны прыродзе выгляд, які лепей не выцягваць на сьвет Божы.

Пачалося ўсё з выседжваньня птушыных яек.

Коштам вялікіх высілкаў і грошай бацька выпісваў з Гамбургу, з Галяндыі, з афрыканскіх заалягічных станцыяў апладнёныя птушыныя яйкі, якія даваў для выседжваньня аграмадным бэльгійскім курам. Гэтая працэдура была займальная і для мяне — тое праклёўваньне пісклятаў, сапраўдных дзіватвораў з выгляду й афарбоўкі. Немагчыма было ўгадаць у тых пачварах з аграмаднымі, фантастычнымі дзюбамі, якія адразу ж пасьля нараджэньня разявconfigure шырока, сычэлі прагнавітымі прорвамі глотак, у тых яшчарах з хілымі голымі целамі гарбуноў — будучых паваў, фазанаў, глухароў ды кондараў. Зьмешчанае ў кошыках, у ваце, гэтае цмачынае адродзьдзе ўздымала на цяжкіх шыях сьляпыя, зарослыя белаю плеўкаю галовы, безгалоса каркала нямымі горламі. Бацька хадзіў уздоўж паліцаў у зялёным хвартуху, як садоўнік уздоўж парнікоў з кактусамі, і выва бліваў зь нікчэмнасьці тыя сьляпыя пульхіры, пульсуючыя жыцьцём, тыя нязграбныя брухі, што прыймаюць навакольны сьвет у форме ежы, тыя нарoсты жыцьця, што навобмацак пнуцца да сьвятла. Праз пару тыдняў, калі тыя сьляпыя пупыры жыцьця лопаліся да сьвятла, пакоі поўніліся каляровым шумам, мігатлівым шорганам сваіх новых жыхароў. Яны абсядалі карнізы фіранак, гзымсы шафаў, гнездаваліся ў гушчары мэталічных разьвілак і завітушак жырандоляў.

Калі бацька вывучаў арніталягічныя атласы і гартаў каляровыя табліцы, здавалася, што зь іх вылятаюць тыя пярнатыя прывіды, і напаўняюць пакой каляровым трапятаньнем, лахманамі пурпуру, паскамі лазуру, мядзянае зелянінi ды срэбра. Пад час кармленьня яны ўтваралі на падлозе стракатыя, рухомыя градкі, жывы дыван, які, варта было камунебудзь непрыкметна ўвайсьці, распадаўся, разьлятаўся на асобныя кветкі, якія трапяталі ў паветры і ўрэшце асядалі ў верхняй частцы пакою. Асабліва мне запомніўся адзін кондар, аграмадны птах з голай шыяй, з маршчы-ністым, у шчодрых наростах, тварам. Гэта быў худы аскет, будыскі лама, поўны непахіснай годнасьці ва ўсіх сваіх паводзінах, што кіраваўся жалезнымі правіламі свайго вялікага роду. Калі ён сядзеў насупраць бацькі, нерухомы ў сваёй манумэнтальнай пазыцыі векавечных эгіпэцкіх боствaў, з вокам, зацягнутым белаватым бяльмом, якое ён насоўваў на зрэнку збоку, каб цалкам замкнуцца ў сузіраньні сваёй годнай самоты, дык выглядаў са сваім каменным профілем на старэйшага брата майго бацькі. Тая самая матэрыя цела, сухажыльляў і зморшчанай цьвёрдай скуры, той самы твар, высахлы й касьцісты, тыя самыя арагавелыя, глыбокія вачніцы. Нават моцныя рукі ў вузлах, доўгія, худыя бацькавы далоні з выпук-лымі пазногцямі мелі свой аналяг у кагцістай лапе кондара. Калі я глядзеў на яго заснулага, ня мог пазбавіцца ад ўражаньня, што перада мною мумія — высахлая, а таму й зьменшаная мумія майго бацькі. Мяркую, што й ад матчынай увагі не схавалася гэтае дзіўнае падабенства, хоць мы ніколі не краналі гэтае тэмы. Характэрна, што кондар карыстаўся тым самым, што й бацька, начным гаршком.

Не спыніўшыся на выседжваньні ўсё новых экзэмпляраў, бацька ладзіў на гарышчы птушыныя вяселлі, высылаў сватоў, прывязваў у празорах страхі спакусьлівых, ссумаваных нарачоных і дасягнуў нарэшце таго, што дах нашай хаты, аграмадны, двухскатны гонтавы дах, стаў сапраўднай птушынай гасподай, Ноевым каўчэгам, да якога зьляталіся летуны ўсякага роду і з усіх бакоў. Нават праз доўгі час пасьля таго, як птушынае гаспадарства было зьліквідаванае, у птушыным сьвеце ўтрымлівалася тая традыцыя нашага дому, і падчас веснавых пералётаў на наш дах ня раз сядалі цэлыя хмары жураваў, пэліканаў, паваў ды іншага птаства.

Забава тая, аднак, неўзабаве пасьля кароткага

лыканьне птушыных галасоў. Драўляныя скрыні ў пакоях падстрэшша, узмоцненыя рэзанансам гарышча, літаральна зьвінелі ад шуму, трэпету, сыпеваў, таканьня й булькатаньня. На некалькі тыдняў мы страцілі бацьку зь відавоку. Толькі зрэдку ён спускаўся дахаты, і тады мы маглі заўважыць, што ён нібыта зьменшыўся, схуднеў і скурчыўся. За сталом ён, забыўшыся, зрываўся з крэсла, і, ляскаючы рукамі, як крыламі, выдаваў працяглы сьпеў, а вочы яму зацягвала каламуць бяльма. Потым, прысаромлены, ён сьмяяўся разам з намі й імкнуўся абярнуць гэты інцыдэнт у жарт.

Аднаго разу падчас генэральных прыборак нечакана ў птушынай дзяржаве бацькі заявілася Адэля. Спыніўшыся ў дзьвярах, яна заламала рукі ад смуроду, што насіўся ў паветры, а таксама над грудамі калу, што завалiў падлогу, сталы й мэблю. Бяз доўгіх разважаньняў яна расчыніла вакно, пасьля доўгай шчоткай ператварыла ўсю птушыную масу ў вір. Узьбіўся пякельны туман пер'я, крылаў і крыку, у якім Адэля, падобная да ашалелай Мэнады, абароненай сваім тырсам, танчыла танец зьнішчэньня. Разам з птушынай грамадой бацька трапятаў рукамі і, уражаны, спрабаваў узьняцца ў паветра. Паволі разьвеяўся крылаты туман, ажно ўрэшце на полі бою Адэля засталася адна, вычарпаная, задыханая, і бацька з сумным і прысаромленым выразам твару, гатовы да любой капітуляцыі.



буяньня набыла сумны выгляд. Даволі хутка бацьку давялося перасяліцца на падстрэшша, у два пакоі, што служылі нам кла-доўкамі для рызьзя. Адтуль ўжо на золку даносілася зьмяшанае кур-

Праз хвіліну бацька спускаўся па прыступках свайго дамініёну зламаным чалавекам, як кароль-выгнанньнік, які страціў трон і каралеўства.

**Пераклад з польскай АА.**



*«Маскарад». Зьлева направа: С. Віткевіч, Я. Кахаnоўскі, Р. Ясінскі, Б. Шульц. Каля 1937 г.*

АНОНС

# ВАСІЛЬ БЫКАЎ У «НН»

У наступным нумары «НН» будзе апублікавана інтэрвію Васіля Быкава, якое ён даў супрацоўніку газэты Віктару Корзуну. Галоўная тэма развагаў пісьменьніка — свабода. В.Корзун мяркуе стварыць на аснове гутаркі з Быкавым і падзеяў Менскае вясны відэафільм, які будзе называцца «Дзеці свабоды».

Наступны нумар «НН» выйдзе праз тыдзень.

БІБЛІЯТЭКА

# ТРЫНАЦЦАЦЬ

**Za niebokresem Europy. Antologia nowej poezji białoruskiej 1987-1997. Wybór i posłowie — Jan Maksymiuk. — Białystok, 1998. Rada Programowa tygodnika «Niwa». 119 s.**




Што там ні кажы, а выхад анталёгіі новай беларускай паэзіі, ды яшчэ за межамі Беларусі, ды яшчэ ў перакладзе – зьява не шараговая. Нават нечаканая. Звычайна масавы чытач мала цікавіцца перакладамі вершаў. Калі на тое пайшло, дык гэта першая спроба (калі ня ўлічваць зборнік «Тутэйшыя») зьвесьці пад адну вокладку творы паэтаў пакаленьня, якое прыйшло ў беларускую літаратуру ў 80-х гадох. Пад вокладку, афармленую фэерычным графікам Міхалам Анепадзіставым, зьмясьціліся партрэты й вершы 13-ці беларускіх паэтаў. Гэтага хапае, каб у агульных рысах пазнаёміць польскага чытача з тэндэнцыямі, якія існуюць у беларускай літаратуры сёньня. А партрэты аўтараў – проста любата!

Усё гэта добра. Але праблема палягае ў тым, што адэкватны паэтычны пераклад (а ў нашым выпадку, дык пераклад «паміж» роднаснымі мовамі, якія маюць шмат агульных рысаў і вялікі агульны слоўнікавы склад), прынята лічыць немагчымым. І ніхто не зьбіраецца абвяргаць гэтую тэзу. Звычайна падобныя анталёгіі прынята друкаваць у білінгвістычным варыянце, дзе верш перакладчыка суседзіць зь вершам-арыгіналам. Чаму так не было зроблена ў выпадку з «Небакраем Эўропы» – з-за браку грошай, альбо так вырашыў укладальнік? На гэтае пытаньне зможа даць адказ толькі ён сам – Ян Максымюк, які ў сваім пасьляслоўі да кнігі гэтага зрабіць не палічыў патрэбным. Зрэшты, як і не патлумачыў, чым кіраваўся ён у адборы аўтараў. Чаму з прадстаўленага ім краявіду беларускай літаратуры апошняга дзесяцігодзьдзя выпалі такія паэты, як Уладзімер Сьцяпан ці Лера Сом, хоць па дасьпеласьці таленту яны не саступаюць ані трывіяльнаму сьцёбмайстру Ігару Сідаруку, ані патаснаму баналісту Міхалу Анемпадзіставу, чый плён у беларускай паэзіі абмяжоўвецца тым, што ён зьяўляецца аўтарам тэкстаў найгоршых альбомаў гурта «Новае Неба».

Само пасьляслоўе да кнігі не адкрые для беларускага чытача нічога новага й цікавага. Адвольны пераказ гісторыі нашай літаратуры, прыпраўлены показкамі з жыцьця беларускіх пісьменьнікаў, прачытаўшы які да апошняга радка, польскі чытач зразумее, што Анатоль Сыс уяўляе сабою постаць толькі дзякуючы панкаўскім акцыям у Доме літаратараў, а Алег Мінкін толькі таму, што фарцаваў рэдказемнымі мэталамі. Зрэшты, можа яно так і ёсьць...

**Андранік Антанян**

# ДЭМАНАКАМЭРОН

**Adam Hlobus. Demonokameron. — Białystok, 1998. 206 s.**




Не пасьпелі мы ў мінулым нумары «НН» надрукаваць пасьляслоўе Валянціна Акудовіча да новага Глёбусавага «Дамавікамэрону», як у Беластоку выйшаў па-польску Глёбусаў «Дэманакамэрон». Кніга ўключае дамавікоў 1994 году і новых, якія ў кніжным фармаце яшчэ не выходзілі, а таксама пасьляслоўе Яна Максымюка. Усяго набралася 66 навэлаў пра рэальных і містычных пэрсанажаў сучаснае аўтарскае міталёгіі. Крыху меней стала трывіяльнае эротыкі, зьявіліся філязофскія матывы ў чыстым выглядзе (у «Акопніку», напрыклад).

У Польшчы над новай кнігай працаваў вялікі аўтарскі калектыў, не раўнуючы як над энцыкляпэдыяй. Усяго 14 перакладчыкаў. Адам Глёбус распавядаў, што на прэзэнтацыі «Дэманакамэрону» ў Беластоку да яго падыходзілі незнаёмыя людзі і прадстаўляліся: «Я – Алкаголік», – казала жанчына, «А я – Ванітніца», –рэкамэндаваўся перакладчык-мужчына. Словам, усім, трэба думаць, было весела. Рэальнасьць блыталася з кніжным вымыслам, а гэта, мабыць, найлепшым чынам адпавядае нашаму сёньняшняму жыцьцю. Хіба што ў выніку нараджаецца не татальная безвыходнасьць, а новая культурная зьява, якой спакваля становяцца Глёбусавы дамавікі.

**Крыт.**

*Рыхтуецца выданьне альбому Міхася Раманюка*

# «Беларускія народныя крыжы»

Міхась Раманюк



Беларускія народныя крыжы

**Новая ілюстраваная манаграфія Міхася Раманюка была падрыхтаваная аўтарам яшчэ пры жыцьці. За 25 гадоў вандровак па ўсіх рэгіёнах Беларусі Міхась Раманюк сабраў мноства зьвестак пра непаўторныя асаблівасьці беларускага пахавальна-памінальнага абраду, зрабіў тысячы ўнікальных фотаздымкаў надмагільных і абракальных беларускіх крыжоў і магілаў, сабраў вусныя сьведчаньні старых людзей. На падставе гэтых дакумантаў зробленая поўная сыстэматызацыя й клясыфікацыя ўсіх формаў і функцыяў крыжоў, месцаў іх устаноўкі па ўсёй Беларусі. Аналягаў гэткага выданьня няма ў нашых суседзяў, а ў Беларусі й ня будзе, бо носьбіты аўтэнтычнае традыцыі адыходзяць у нябыт, а большасьць прадстаўленых помнікаў страчана незваротна... Альбом зьмяшчае больш за 150 аўтарскіх здымкаў і замалёвак. Аб'ём 100 старонак, фармат 24х30 см. Мы зьвяртаемся да ўсіх, хто зацікаўлены ў пашырэньні традыцыйнае беларускае культуры, з просьбай паспрыяць выданьню кнігі. Бяз Вашае дапамогі выданьне будзе немагчымае.**

**Адрас для імянных чэкаў і пошты: Ramaniuk Dzianis, a/d 2566, Vilnius, 2009, Lithuania.**

На выданьне кнігі Міхася Раманюка свае ахвяраваньні даслалі:

Ю. Андрусішына - 25$
Ю. і Л. Арцюхі - 50$
Ф. і В. Бартулі - 50$
К. і Я. Вініцкія - 100$
Браніслаў Даніловіч - 25$
Алег Дубяга - 50$
Надзя і Янка Запруднікі - 200$
Віталь Кажан - 80$
Я. Каханоўская - 25$
В. і З. Кіпелі - 100$
Марат Клакоцкі - 30$
М. Латушкін - 75$
Л. і Л. Літаровічы - 50$
Л. Мішэль - 75$
Норбэрт Рандаў - 100DM
Ала О. Рамана - 250$
Г. і В. Русакі - 50$
Алеся Сёмуха -50$
А. і Н. Сільвановічы - 50$
Л. Стагановіч - 50$
Т. Стагановіч -100$
Р. Станкевіч - 25$
В. Стус - 50$
Фундацыя імя П. Крэчэўскага - 100$
Цэнтральны Камітэт у Вікторыі на чале з старшынём Паўлам Гузам - 200$Australia
А. Шукялойць - 25$
Янка Юханавец - 10$

Вялікі дзякуй!

# Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

Індыйскія казкі: Для малодшага школьнага веку / Уклад. М.Зарэмба; Пер. з ангельск. Т.Лукша; Маст. М.Казлоў. — Менск: Юнацтва, 1998. — 191 с.: іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-05-0089-1

Ліпскі У. Я: Праўдзівы апoвяд пра твой і мой радавод. — Менск: Беларусь, 1998. — 318 с.: іл. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-01-0160-1

Ліс А. Каляндарна-абрадавая творчасьць беларусаў: Сыстэма жанраў. Эстэтычны аспэкт / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру імя К.Крапівы. — Менск: Беларуская навука, 1998. — 188 с. — Наклад 1200 ас. ISBN 985-08-0208-1

Прыгодзіч М., Ціванова Г. Старабеларускі лексікон. Падручны перакладны слоўнік. — Менск: Бел. выд. таварыства «Хата», 1997. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-6007-39-9

Рудольф С. Маё дзіўнае вужаня: Аповесьць: Для сярэдняга школьнага веку / Пераклад з чэскай І.Шаблоўскай; Маст. Г.Шапялевіч. — Менск: Юнацтва, 1998. — 159 с.: іл. — Наклад 2500 ас. ISBN 985-05-0099-9

Старычонак В. Займальная філялёгія. — Менск: Вышэйшая школа, 1998. — 254 с.: іл. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-06-0250-3

# Віленскі Пэдагагічны Ўнівэрсытэт

па конкурсу атэстатаў набірае студэнтаў на 1 курс факультэту славістыкі па спэцыяльнасьцях:

- беларуская мова і журналістыка;
- беларуская і расейская мовы і літаратуры;
- беларуская мова і літаратура і гісторыя культуры;
- беларуская мова і мэтодыка пачатковага навучаньня.

**Навучаньне платнае.**

**Форма навучаньня: завочнае (5 гадоў).**

**Прыём дакумэнтаў – да 1.09.98.**

**1. Атэстат (копія) альбо дыплём вышэйшай школы (выпіска).**

**2. Мэдычная даведка.**

**3. 4 фотакарткі (3х4).**

**4. Выпіска з працоўнай кніжкі (калі ёсьць).**

Дакумэнты можна выслаць на адрас:
Baltarusiu kalbos, literaturos bei etnokulturos katedra
Vilniaus Pedagoginis Universitetas
Studentiu g. 39-527
2034 Vilnius
Lietuva
тэл.: 72-58-01, 73-18-41
тэл. у Баранавічах: 8-01634-70503

1. Дакумэнты прымаюцца асабіста ці дасылаюцца праз пошту на адрас унівэрсытэту. Пры перасылцы праз пошту далучаецца заява на імя рэктара ў свабоднай форме з указаньнем спэцыяльнасьці і зьвестак пра сябе.

2. $10 за рэгістрацыю дакумэнтаў і афармленьне візы ўносіцца асабіста пры падачы дакумэнтаў альбо пасьля прыезду на вучобу (калі дакумэнты пераcланыя праз пошту).

3. Разам з выклікам на вучобу даецца інфармацыя адносна візы, жыльля, аплаты і г.д.

4. Віза падчас вучобы бясплатная.

5. Інтэрнат даецца пры наяўнасьці месцаў і аплочваецца студэнтам.

6. Аплата за вучобу пераводзіцца пасьля залічэньня праз банк, паштовым пераводам ці асабіста ў касу ўнівэрсытэту па прыезьдзе на сэсію. Тады ж падпісваецца дамова паміж студэнтам і рэктарам ВПУ.

7. Дыплём на тэрыторыі Беларусі мае юрыдычную сілу.

8. $1 = 4 літы.





## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

***Л.С. зь Ліды.*** *Апавяданьне завялікае і нібы разрэджанае, «праставатае», складзенае з фразаў-штампаў (пражыла доўгае жыцьцё; праца ў школе падабалася ёй; бяда, як заўсёды, прыходзіць нечакана). Уласна слова, фраза, стыль нясуць выключна інфармацыйную нагрузку, як у артыкуле. Таму кантэксту (які й адрозьнівае мастацкую прозу) не ўзьнікае. Апавяданьне чытаецца як газэтная занатоўка. А тэма цікавая.*

«Наша Ніва» незалежная газэта заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Выдавец рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Аддзел інфармацыі Андрэй Лапцёнак. Макет Віктар Корзун. Адрас для допісаў 220050 Менск а/с 537. Tel/fax (017) 227-78-92 E-mail: niva@user.unibel.by http://members.xoom.com/Nasa_Niva.



Наклад 4950. 8 палос фарматам А2 нумар падпісаны ў друк 23[30], 05.07.1998. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова N3977

Кошт свабодны.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня N 581 ад 4-га ліпеня 1996 г. выдадзеная Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газеты «Известия», д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12